# ЗЬМЕСТ.



---




Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

III год выданьня    Сьнежань 1927 г.    № 12

## Некалькі слоў аб дасьледчых станцыях.

Нашы сучасныя мерапрыемствы па сельскай гаспадарцы былі пабудованы без належнага досьледу, бо яго ў мінулым на Беларусі ня было. У пачатку нашай працы, калі перад намі стаялі ў першую чаргу такія пытаньні, як земляўпарадкаваньне, мэліорацыя*), масавыя аграмерапрыемствы—мы мелі мажлівасьць вызначыць і інтуітыўна правільныя шляхі ў перабудове сельскай гаспадаркі. Але ў бліжэйшыя гады перад намі паўстаюць такія сельска-гаспадарчыя проблемы, якія мы без сталага навуковага досьледу ня вырашым. Перад намі ўжо паўстала такая задача, як па прыкладу іншых краін—Даніі, Усходняй Прусіі—выгадаваць, зрабіць высокаякаснай і распаўсюджыць па ўсёй БССР чырвоную беларускую жывёлу, выгадаваць племяных сьвіней, зьмяніць усё сучаснае насеньне ў сялянскіх гаспадарках і распаўсюджыць сартовае, дабіцца высокіх ураджаяў, індустрыяльнай перапрацоўкай сыравіны сельскай гаспадаркі пашыраць яе таварнасьць і г. д. Наогул прыродныя багацьці і мажлівасьці Беларусі пакуль што дзеля нас зьяўляюцца таемнымі толькі таму, што яны нявывучаны. На абшарах Беларусі ляжыць некранутай, нескарыстанай такая колькасьць энэргетычных рэсурсаў, што каб мы толькі адну сотую частку іх скарысталі дзеля нашых сельска-гаспадарчых мэт, дык мы дагналі-б і перагналі любую самую культурную краіну. Да гэтуль мы толькі войкалі і ахкалі перад тым, як людзі іншых краін добра ўмеюць скарыстоўваць свае прыродныя багацьці і тварыць вялікую культуру, а самі мы пакуль што ўмелі толькі лапці плясьці ды і тыя дрэнныя.

У бліжэйшыя гады правільнае вырашэньне проблем сельскай гаспадаркі Беларусі будзе залежаць ад таго, як мы паставім наш навуковы досьлед. Пройдзеныя гады нашай працы ў дасьледчай справе трэба лічыць гадамі організацыйнай падрыхтоўкі. Ніводная наша дасьледчая станцыя, акрамя балотнай, пакуль што нічога сталага ў сваёй працы не зрабіла і іхнімі дасягненьнямі мы ня маем мажлівасьці карыстацца. За мінулы час мы пабудавалі даволі шмат станцый, прыблізна правільна прыстасавалі іх да сельска-гаспадарчых раёнаў і пыталіся, праўда, ня зусім удала праводзіць дасьледчую справу, расходавалі на гэта досыць вялікую колькасьць грошай. Вось і ўсе пакуль што «дасягненьні» у мінулым дасьледчай працы нашых станцый, акрамя балотнай, якая праводзіць калясальную і сур'ёзную справу.

Гаспадарка большасьці нашых дасьледчых станцый у заняпадзе, неабходных абсталяваньняў мала, вопыты часта закладваюцца выпадкова. Кожны новы загадчык, а яны на некаторых станцыях мяняліся вельмі часта, лічыў сваім навуковым абавязкам не згаджацца

*) У гэтай справе мы ў БССР маем большы вопыт, чым іншыя рэспублікі.



з тым, што да яго было зроблена. Ён адчыняў сваю «Амэрыку», а фактычна, зачыніўшы і тое, што да яго было зроблена, кідаў справу. Ёсьць і такія дасьледчыя станцыі, дзе згрупавана шмат навуковых працаўнікоў, якія вядуць досьледы толькі дзеля сваіх прафэсарскіх мэт і мала праводзяць такіх досьледаў, якія патрэбны для нашага сучаснага сельска-гаспадарчага будаўніцтва, аргумэнтуючы гэта тым, што ў іншых мясцовасьцях усё гэта вывучана і вядома, але-ж ці магчыма гэтымі досьледамі карыстацца на Беларусі; аб гэтым нічога не вядома. Да гэтага часу нам не ўдалося на станцыях падабраць кадр добрых дасьледчыкаў і мы ня бачым дасьледчай актыўнасьці. Калі людзі кіруюцца прынцыпам, абы на пэнсіі сядзець і па маленьку станцыяй адміністраваць, дык з іх, кожнаму зразумела, дасьледчыкі нікчэмныя. Разам з гэтым нашы дасьледчыя станцыі амаль што ніякай сувязі ня маюць з сялянствам. Я ня ведаю, у чым тут справа, ці людзям няма чаго добрага сказаць сялянству, ці тут вядзецца палітыка старых часоў. Але гэта перашкаджае, па мойму, пасьпяхова працаваць самым-жа дасьледчыкам. Калі кожны дасьледчык установіць шырокую сувязь з сялянствам, дык яны з практыкі сваёй працы ў сельскай гаспадарцы зададуць столькі новых тэм і матэрыялаў, ад якіх кожны дасьледчык паразумнее і яму ня трэба будзе тады дзеля свае працы выдумляць такія тэмы, якія ніякага дачыненьня да сучаснага нашага будаўніцтва ня маюць. Калі я быў замежамі, дык некаторыя вядомыя прафэсары казалі, што яны ад сельскіх гаспадароў атрымоўваюць у год ад 2.000 да 5.000 лістоў. Дык вось як працуюць Заходня-эўропэйскія дасьледчыкі. А я цяпер запытаюся ў нашых дасьледчыкаў і прафэсароў, а колькі яны атрымоўваюць ад нашых сялян лістоў, і, думаю, не памылюся, калі скажу, што ніводнага. А між іншым пры Рэвалюцыі і Савецкай уладзе кожны наш дасьледчык і прафэсар мае больш мажлівасьці, чым любы працаўнік замежамі, устанавіць навукова-дасьледчую сувязь з сялянствам.

Пара ўсе гэтыя хваравітыя зьявішчы зьнішчыць і організаваць больш салідную пастаноўку дасьледчай працы на нашых станцыях. Організаваны намі Навукова-дасьледчы Інстытут сельскае і лясное гаспадаркі пачынае памойму добра сваю працу, і, паколькі пад яго загад павінна адыйсьці ўся дасьледчая праца, неабходна, каб ён заразжа заняўся і пастаноўкай справы на нашых дасьледчых станцыях.

**Зьм. Прышчэпаў.**

---

# Каляктыўная распрацоўка драўніны ў лесе.

Калісь Беларусь была вельмі багата лесам. Лесу тады ніхто не цаніў і не шкадаваў. Лясы былі пераважна панскія і прыносілі менш прыбытку, чым ральля і сенажаць, дык, зразумела, што лес у нас зьнішчыўся і дайшло да таго, што калісь вельмі лясістая Беларусь зьмянілася ў краіну малалесную.

Вынікі гэтага ўсім вядомы—недахоп сваёй драўніны дзеля здавальненьня сваіх неабходных патрэб на будоўлю, вырабы, апал і г. д.

Цяпер, калі ў нас лесу стала мала і ён на гэтай прычыне падняўся ў цане і адсунуўся ад вёсак на дзесятак вёрст, трэба старацца больш рацыянальна яго распрацоўваць. Такія выпадкі, што калі дзеля якой-небудзь невялікай патрэбы, як тапарышча, ночвы альбо вось,

валіцца бяз літасьці з пня цэлае дрэва, пахне далёкай старыною і сьведчыць аб тым, што мы ня ўмеем берагчы лесу.

А хіба мала ў нас парэзалі на дровы і спалілі падзелкавай вольхі і бярозы, годнай на фанеру, падзелкавае асіны, годнай на сярнічкі, падзелкавай сасны і елкі, годнай на будоўлю!

Гэту падзелкавую драўніну спалілі, а дзеля фабрык і заводаў, якія патрабуюць гэту драўніну, не хапіла сыравіны, і яны павінны былі альбо прывозіць яе здалёк, альбо спыняць работу і тым самым ударажаць свае вырабы.

А тымчасам, калі на апал ішла падзелкавая і будаўляная драўніна, усе астачы ад лесараспрацовак—вяршыны і сучча годныя дзеля апалу, на апал не скарыстаны, а спалены на месцы ў лесе альбо ляжаць там і гніюць.

Трэба адмовіцца ад старасьвецкіх поглядаў на лес і пастарацца рацыянальна распрацоўваць драўніну; гэта значыць, распрацаваць кожнае дрэва так, каб атрымаць з яго магчыма больш будаўлянай і падзелкавай драўніны і толькі астатнюю частку пускаць у дровы.



Дуб 250 год, вышыня 37 мэтр, таўшчыня на адрэзе вышыні грудзей—130 см. (Цэльская лясная дача, Бабруйскай акругі).

Напэўна, цяжка чакаць, каб кожны селянін, купіўшы 5-10 дрэў, павёў поўную і рацыянальную распрацоўку іх у рознастайныя сартымэнты. Ён распрацоўвае іх так, як гэта яму патрэбна.

Калі яму патрэбна 10 бярвеньняў па 9 арш. на хату, то ён выража з іх гэтыя 9-ці арш. бярвеньні, а астатнюю частку пусьціць у дровы, ня гледзячы на тое, што з іх магчыма было-б яшчэ атрымаць кроквы, слупы альбо яшчэ што-небудзь патрэбнае другому селяніну.

Вось загэтым, каб лес распрацоўваўся рацыянальна, трэба распрацоўку вясьці ня кожнаму дзеля сябе і па аднаму, а калектыўна (групаю), супольна.

Усю купленую дзялянку супольна трэба распрацаваць, нарыхтаваць магчыма больш будаўнічых і падзелкавых сартымэнтаў, а ўсе

астачы парэзаць на дровы і тады падзяліць паміж сабою кожнаму па яго патрэбнасьці. Такі каляктыўны (групавы) спосаб распрацоўкі лесу мае для сялян яшчэ і другія перавагі.

1) Лесасечны білет у лясьнічага атрымоўвае толькі адзін з групы ці каляктыва, а астатнія не марнуюць часу дарма.

2) Пасьля рацыянальнай распрацоўкі каляктыў мае магчымасьць ацаніць пасвойму кожны сартымэнт адпаведна яго якасьці. Таксама вядома ўсім, што лясьнічы робіць сваю ацэнку па табліцах, а гэтыя табліцы паказваюць аднолькавую цану для 6 вярш. сасны, будзь яна даўжынёю ў 26 арш., ці ў 45 арш. Вядома, што з 45 арш. дрэва можна нарыхтаваць больш драўніны, прыкладам у 1½ разы, чым з 26-аршыновага. Лясьнічы цэніць драўніну (дрэва) па якасьці на тры сарты: *будаўнічую, поўбудаўнічую* і *дрывяную* і дзеля кожнага гэтага сорту вызначае сваю цану. Калі, напрыклад, возьмем 7-вярш. сасну высокага росту, дык знойдзем, што яна каштуе па III разраду таксы— будаўнічая—2 р. 20 к. поўбудаўнічая—1 р. 34 к. і дрывяная—48 кап. Сапраўды-ж, калі распрацаваць кожнае дрэва ў належныя сартымэнты і ацаніць па той самай таксе, то маглі-б атрымаць драўніны з будаўнічага дрэва на суму 1 р. 64 к.—3 р. 34 к., з поўбудаўнічага 1 р. 06к.— 1 р. 85 к. і з дрывянога 48 к.—1 р. 17 к.

Распрацоўваючы каляктыўна (групай), можна больш правільна ацаніць кожны сартымэнт, чаго лясьнічы зрабіць ня можа, бо ён прадае лес на пню.

Вось гэтыя перавагі гавораць за тое, што рацыянальная распрацоўка і правільная ацэнка драўніны можа быць зроблена толькі тады, калі лясьніцтва будзе прадаваць ўжо нарыхтованыя сартымэнты альбо калі сяляне будуць каляктыўна распрацоўваць лес у тыя ці іншыя сартымэнты. Рацыяналізацыю трэба праводзіць усюды ў тым ліку і пры распрацоўцы драўніны.

**Я. Седашаў.**

---




# 1-ыя курсы часопісі „Плуг“ для сялян-дасьледчыкаў.

### Сялянская с.-г. школа ў сябе дома.

Агранамічная падрыхтоўка саміх сялян мае аграмаднае значэньне ў перабудове сельскай гаспадаркі, у павялічэньні яе даходу і г. д.

Нарком Земляробства, т. З. Прышчэпаў, падагульваючы вынікі свайго вывучэньня сельскай гаспадаркі Ўсходніх Прусаў і Даніі піша, што трэба ўзяць выразны курс на агранамічную падрыхтоўку сялян. Трэба працягнуць тэрмін с.-г. курсаў, трэба абсталяваць і прыстасаваць аграпункты для зімовых школ сялян. *).

Зімою ў нашага селяніна ёсьць больш вольнага часу, чаму гэту пару і трэба выкарыстаць кожнаму селяніну для сваёй агранамічнай адукацыі. У гэты час нашы аграномы па ўсіх раёнах праводзяць с.-г. курсы. Шмат бывае там слухачоў. Праслухаўшы курсы, шмат сялян пачала гаспадарыць пановаму. Але ўсё-ж такіх курсаў у раёне штогодна бывае ня больш 3—5. Шмат сялян ня могуць яшчэ праслухаць гутаркі агранома.

З гэтай прычыны трэба шукаць і другіх спосабаў, якімі можна было-б даць належныя агранамічныя веды рупліваму селяніну. Вось чаму Рэдакцыя нашай сялянскай с.-г. часопісі «Плуг» разам з Бюро Сялян-дасьледчыкаў, што знаходзяцца пры Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя Ў. І. Леніна, з гэтага нумару «Плуга» і на працягу бліжэйшых 4 нумароў на сваіх старонках адчыняе «Сельскагаспадарчыя курсы для сялян-дасьледчыкаў».

Для працы на гэтых курсах запрошаны лепшыя прафэсары, навуковыя працаўнікі і дасьледчыкі БССР, якія ў 4—5 нумарох «Плуга» выдрукуюць свае артыкулы па розных галінах сельскай гаспадаркі (жывёлагадоўлі, расьлінагадоўлі, садоўніцтву, культуры балот і г. д.).

Бязумоўна, аб'ём нашай часопісі не дазволіць даць вельмі падрабязныя веды, але ў кожным артыкуле прафэсара будзе сказана самае галоўнае, што трэба ведаць селяніну ў тэй галіне.

Кожны селянін і чытач «Плуга», які будзе сачыць за гэтымі курсамі, бязумоўна, не павінен абмяжоўвацца толькі чытаньнем гутарак курсаў, а пажадана адначасова чытаць і іншую с.-г. літаратуру, якая будзе адказваць на тыя пытаньні, якія паўстануць тут у слухачоў курсаў. Сяляне-дасьледчыкі асабліва пільна павінны сачыць за курсамі і распрацоўваць кожнае пытаньне, бо шмат хто з іх захоча паставіць належны досьлед у сваёй гаспадарцы.

*) „Сельская і Лясная Гаспадарка“ № 2.

Але адсюль нельга зрабіць вывада, што гэтыя курсы праводзяцца толькі для сялян-дасьледчыкаў, як найбольш сьвядомых ці пісьменных, Далёка не. Часопісь «Плуг» спадзяецца, што іх шырока выкарыстае і кожны чытач «Плуга», асабліва, калі ён будзе стала працаваць над сваёй агранамічнай асьветай. Нам вядома некалькі прыкладаў, калі зусім малапісьменныя сяляне, убачыўшы «Плуг», пачыналі стала яго чытаць, а таксама чытаць і іншую с.-г. літаратуру, дык праз год два вырасталі нагэтулькі, што нават ня верылася: піша гэта селянін ці агроном.

Так пачалі сваю працу гаспадары-камсамольцы С. Сялюкін, М. Тарасенка, маладыя гаспадары Я. Судак, К. Запольскі і інш.

Ня меншае значэньне могуць мець гэтыя курсы і для с.-г. гурткоў у іх працы. Да гэтага часу наглядалася, што с.-г. гурткі не маглі працаваць добра, бо ў іх ня было належнага кіраўніцтва. Вось зараз і яны найшырэй могуць выкарыстаць гэтыя курсы сялян-дасьледчыкаў для сваёй працы. Груповая прапрацоўка матэрыялу ў гуртку будзе толькі паглыбляць іх працу. Таксама курсы могуць выкарыстоўваць аграномы на сваіх курсах сялян у раёнах, настаўнікі ў вясковых школах і інш.

У працы часопісі «Плуг» гэта будзе першая спроба правядзеньня на сваіх старонках с.-г. курсаў для сялян. Пажадана, каб чытачы «Плуга» у канцы выказаліся аб такім мэтодзе працы часопісі. Таксама пажадана, каб усе пытаньні, якія зьявяцца ў чытачоў, паштоўкаю прысылаліся-б у Рэдакцыю «Плуга». Адказы будуць у наступным нумары часопісі і ў газэце «Беларуская Вёска». *(Рэд.)*

---

# Што трэба ведаць пры пастаноўцы дасьледаў па жывёлагадоўлі.

## Гутарка 1.

Сельска-гаспадарчыя дасьледчыя станцыі вышукваюць способы правільнага і недарагога кармленьня нашай с.-г. жывёлы, галоўным чынам кароў і сьвіней, для павялічэньня прыбыткаў ад іх. Аднак, для таго, каб гэтыя способы станцый можна было раіць сялянам, іх трэба праверыць яшчэ раз ва ўмовах сялянскай гаспадаркі. Вось для гэтай мэты і ўцягваюцца ў дасьледчую працу сяляне-дасьледчыкі, якія перад пастаноўкаю такіх досьледаў павінны перш даведацца, як і для чаго ставяцца такія досьледы.

Селянін-дасьледчык павінен ня толькі падрабязна азнаёміцца з тэхнікаю досьледа, але і разумець сэнс гэтай тэхнікі. Напрыклад, ён павінен разумець, на чым грунтуецца ацэнка корму, або ад чаго залежыць ступень яго спажыўнасьці, ад чаго залежыць не аднолькавая патрэба жывёлы ў корме. Не зразумеючы гэтага, селянін-дасьледчык ня здолее правільна вызначыць, колькі і якога корму трэба даць жывёле, інакш ня здолее скласьці правільную норму кармленьня.

Для складаньня правільных норм кармленьня, селянін павінен умець ацэньваць розны корм па спажыўнай якасьці. Звычайна ўсякі корм па спажыўнасьці прыраўніваюць да зярна—аднаго фун. ячменю або 1 фун. аўса. Такая ацэнка завецца ацэнкаю ў кармовых адзінках.

Аднэй кармовай адзінцы па спажыўнасьці раўняецца, напрыклад, ¾ фун. завод. макухі; 1⅓ ф. пшанічнага вотруб'я; 3—4 ф. сена лугавога; 10 ф. кармовых буракоў і г. д.

Такая ацэнка зроблена для ўсякага нашага корму і складзена ў асобныя кармовыя табліцы. Але мала мець толькі такую табліцу, каб правільна ацаніць усякі корм. У табліцы, напрыклад, сказана, колькі фун. сена канюшыны замяняюць 1 фун. аўса, але сена канюшыны можа быць скошана рана—у пачатку красаваньня, або позна,— калі ⅓ галовак пачарнее. Вядома, сена ў першым выпадку будзе больш спажыўным, чым у другім. У час прыборкі сена можа быць добрая пагода, а можа і быць дождж,—сена, якое пабывала пад дажджом будзе горшым, чым прыбранае ў добрую пагоду. Усе такія акалічнасьці гаспадар павінен улічваць пры складаньні норм свайго корму, каб рабіць належныя папраўкі ў кармовай табліцы. Далей, селянін павінен разумець, ад чаго залежыць неаднолькавая патрэбнасьць рознай жывёлы ў корме: яна залежыць ад жывой вагі жывёлы, затым залежыць ад таго, ці носіць жывёла ў сабе будучы прыплод (для плада патрэбна прыбаўка корму) і, нарэшце, залежыць ад велічыні прадукцыі жывёлы (для каровы, якая дае многа малака, трэба больш корму, чым для сухастойнай).

Для прастаты складаньня кармовых норм прынята адрозьніваць корм, падтрымліваючы жыцьцё жывёлы (ён залежыць галоўным чынам ад жывой вагі) і прадукцыйны корм,—які вызначаецца ступеньню прадукцыйнасьці жывёлы: у кароў велічынёю ўдоя, у сьвіней—велічынёю прыроста іх вагі і г. д. Досьледы паказваюць, што на падтрымліваючы корм для сялянскай каровы ў 16—25 пуд. патрэбна па 1 кармовай адзінцы на кожныя 3 пуд. жывой вагі. Ёсьць асобныя табліцы для вызначэньня падтрымліваючага корму і для каня (вядома, для каня, які не працуе). Напрыклад, конь у 32—33 пуд. вагою патрабуе для падтрыманьня жыцьця 7—7½ кармовых адзінак. Для вызначэньня падтрымліваючага корму, апрача вагі жывёлы, трэба прымаць пад увагу і ступень адкормленасьці жывёлы,—жырнай жывёле для падтрыманьня жыцьця трэба корму на 20—25% больш, чым худой. Табліцы звычайна разьлічаны на сярэднюю адкормленасьць жывёлы. Таму селянін-дасьледчык ужо сам павінен вырашаць пытаньне, ці трэба яму трымацца лічбаў табліцы, ці іх трэба некалькі павялічваць. Вось чаму ад селяніна-дасьледчыка і вымагаецца ня толькі веданьне тэхнікі (правіл) досьледа, але і разуменьне самай сутнасьці справы. Асабліва гэта патрэбна памятаць, пры вылічэньні прадукцыйнага корму для жывёлы: у кароў ён вылічваецца па вазе ўдою, у сьвіней па велічыні прыросту іх жывой вагі, у коняй па праводзімай рабоце. Для кароў, напрыклад, устаноўлена, што на кожныя 2½—2¾ ф. малака трэба дадаваць к падтрымліваючаму корму па 1 кармовай адзінцы. Але і гэта верна толькі прыблізна,—для кароў з навацёлу 1 кармовую адзінку можна даваць на 3 фун. малака,—для кароў-жа, якія набліжаюцца да сухастою, 1 кармовую адзінку трэба даваць ужо на 2 фун. малака.

Але мала правільна ацаніць свой корм у кармовых адзінках і правільна вылічыць разьмер падтрымліваючага і прадукцыйнага корму. Трэба, каб селянін-дасьледчык умеў яшчэ правільна скласьці кармовую дачу, гэта значыць так разнастаіць розны корм, каб ён даў найлепшы вынік. Справа ў тым, што розны корм у значнай меры розьніцца ад другога корму па складу сваіх спажыўных матэрый. Галаўнейшых частак корму ёсьць дзьве: б я л о к (гэта матэрыя па свайму складу падобная да бялку курынага яйка або да бялку творагу) і затым— б е з б я л к о в а я м а т э р ы я,—сюды ўваходзіць крухмаль, жыр,

расьлінны цукар і дрэвясіна (клетчатка). Адзін корм багаты бялкамі (макуха, вотруб'е), а другі—бедны бялкамі (салома, бульба). Досьледы паказалі, што калі кармовая дача будзе складзена так, што ў ёй вельмі мала будзе бялковага корму, дык і бязбялковая частка корму будзе дрэнна спажывацца жывёлаю. Такое кармленьне будзе нясходным. Калі-ж кармовая дача будзе занадта багата бялкамі, дык і тут значная частка бялка без карысьці будзе раскладацца ў організме жывёлы, а гэта непатрэбная рэч, бо бялковы корм—самы дарагі.

Таму пры правільна складзенай кармовай дачы абавязкова павінна быць пэўная суразьмернасьць паміж бялковай і безбялковай часткамі корма: для новацельнай каровы на адну частку бялка ў корме павінна быць 5 частак безбялковага корму; для сьвіней пры сальным адкорме на 1 частку бялка корм павінен мець 9—10 частак безбялковага корму. З гэтага бачым, што так званы бялковы адносьнік для розных выпадкаў кармленьня павінен быць розным. У табліцах для кармленьня звычайна паказваюць, якія павінны быць суадносіны бялковых матэрый да безбялковых для рознай жывёлы. У табліцах-жа, якія паказваюць склад корму, таксама паказана колькі ў кожным корме маецца бялковых і безбялковых частак (па вазе). Селянін-дасьледчык, ведаючы па табліцах склад свайго корму і ведаючы па другіх табліцах, колькі трэба для яго жывёлы падтрымліваючага і прадукцыйнага корму (а таксама бялку),—здолее спрактыкаваўшыся скласьці кармавую норму так, каб яна здавальняла правілам і па колькасьці кармовых адзінак і па сваёй якасьці (суадносіны бялку). Правільна складзеныя нормы зьяўляюцца першай умовай для посьпеху ў досьледзе; таму ў пачатку досьледу нормы звычайна складаюцца селянінам пры дапамозе агранома або інструктара.

Але селянін-дасьледчык павінен ня толькі правільна ўмець карміць жывёлу, але і падлічыць рэзультаты досьледу,—гэта значыць падлічыць, як тое ці іншае кармленьне выявілася на прадукцыйнасьці жывёлы (на ўдоі, на жывой вазе). Калі досьлед, напрыклад, вядзецца з дойнаю кароваю, дык на працягу ўсяго досьледа трэба важыць ці мераць малако гэтай каровы і, апрача таго, трэба ў пачатку досьледа зважыць і самую карову, каб улічыць, як мяняецца яе вага. Лепш узважваць жывёлу на працягу трох дзён падрад у адзін і той-жа час (лепш ураньні, да кармленьня) і затым браць сярэдняе з гэтых трох узважваньняў. Калі няма вагі для жывёлы, дык вызначыць жывую вагу жывёлы можна прамерамі, але такое вызначэньне вагі ня вельмі дасканалае і на яго асабліва пакладацца нельга.

З тэй прычыны, што адзін і той-жа корм не заўсёды мае аднолькавы ўплыў на розную жывёлу, досьледы часьцей усяго неабходна паўтараць або ставіць іх у некалькі гаспадарках і на адну і тую-ж тэму. Калі вынікі такіх досьледаў, пастаўленых у розных гаспадарках і па аднаму пляну будуць аднолькавы ці блізкі паміж сабою, дык такі досьлед можна лічыць удаўшымся.

Трэба адзначыць, што на выніку досьледа адбіваюцца і ўмовы ўтрыманьня жывёлы. Нельга параўнаць вынікі кармленьня жывёлы, якая знаходзіцца ў халодным і брудным хлеве з вынікамі кармленьня жывёлы, якая знаходзіцца ў цёплым і чыстым хляве. Дзеля чаго пры пастаноўцы досьледа ў розных гаспадарках неабходна прыняць меры к таму, каб галоўныя ўмовы ўтрыманьня ў іх былі аднолькавымі (па мажлівасьці). Апрача таго, ня кожная жывёла і не заўсёды бывае

прыгодна для пастаноўкі з ёю досьледа; напрыклад, сярод малочных кароў найлепш падыходзяць для гэтай мэты каровы сярэдняга ўзросту і сярэдняй адкормленасьці; нельга ставіць досьледаў з каровамі, якія блізкі да сухастою ці зараз-жа пасьля ацёлу.

Досьлед павінен цягнуцца даволі доўга інакш вынікі будуць мець малую вартасьць. На працягу ўсяго досьледа спосаб і парадак догляду за жывёлаю не павінен мяняцца, гэта значыць карменьне, паеньне і дойка павіны быць у адзін і той жа час, якія вызначаны ў пачатку досьледа.

Як бачым галоўнейшыя ўмовы для правядзеньня досьледаў па карменьню жывёлы ў гаспадарках сялян-дасьледчыкаў складаюцца з таго, што селянін павінен сьвядома выпаўняць усе ўказаньні, якія яму дадзены: ён павінен разумець правілы ацэнкі корму, складаньня кармовых норм і ўмець правільна падлічыць вынікі досьледа па зьмяненьню ўдою і жывой вагі жывёлы.

Кожны селянін, які жадае паставіць у сваёй гаспадарцы досьлед па жывёлаводзтву, павінен да яго падрыхтавацца, гэта значыць павінен азнаёміцца з правіламі карменьня с.-г. жывёлы, чытаючы належныя кніжкі, якія будуць паказаны яму аграномам ці інструктарам. Да агранома-ж селянін павінен зьвяртацца і з ўсімі пытаньнямі, якія будуць у яго паўставаць і г. д. Толькі пасьля такой падрыхтоўкі селянін можа прыступіць к досьледу па карменьню жывёлы,—у такім разе селянін на практыцы, у сваёй гаспадарцы, даведаецца, што правільнае карменьне жывёлы падвышае яе даходнасьць.

Праф. **Н. Пеліхаў.**

---

# Досьледы з адкормам сьвіней.

## Гутарка 2-я.

Сьвінагадоўля для Беларусі мае надзвычайна вялікае значэньне. Нацыянальны прыбытак Беларусі складаецца ў вялікай частцы ад сьвінагадоўлі. Аднак патрэбна адзначыць, што сьвінагадоўля на Беларусі вядецца амаль усюды някультурна, без усякіх навуковых падстаў і часамі з убыткам для гаспадара. Каб правільна весьці сьвінагадоўлю, трэба сялянам самім ставіць досьледы ў сваіх гаспадарках. Сяляне павінны браць дасягненьні дасьледчых станцый і правяраць іх у сябе. Нажаль, мы да гэтага часу на Беларусі ня мелі дасьледчых работ па жывёлагадоўлі. Усё-ж каб ня лічыць зусім безнадзейнай справу па досьледах у жывёлагадоўлі, можна даць некаторыя напрамкі гэтай працы. У даным артыкуле будуць апісаны толькі досьледы з адкормам сьвіней. Бязумоўна, і гадоўля сьвіней на племя мае вялікае значэньне для Беларусі, але ў гэтым артыкуле абмяжуемся толькі адкормам.

Для высьвятленьня таго, як правільна весьці адкорм сьвіней патрэбна ставіць досьледы з сьвіньнямі розных парод пры розных умовах утрыманьня і пры розным карменьні. Першае пытаньне, якіх сьвіньней, якой пароды, узросту і іншае патрэбна адкармліваць для рознай мэты, сяляне дасьледчыкі ня могуць пакуль што ўзяць на сябе, таму што гэта справа досыць складаная. Яна магчыма толькі пры вялікай колькасьці сьвіней, пры знаньні іх парод і іншае. Гэта пытаньне будзе высьвятляцца дас-

канала на Беларускай станцыі па сьвінагадоўлі. Акрамя таго, гэта справа ў асноўным больш менш вядома з эўропэйскае і саюзнае літаратуры.

Пры адкорме трэба адрозьніваць тры тыпы адкорму: мясны, паўсальны і сальны. На мясны адкорм ідуць сьвіньні белай ангельскай пароды, ці мэтысы іх з мясцовымі, а таксама і чорныя беркшыры, ці іх мешанцы. Апошнія будуць мець вялікае значэньне для Мазыршчыны. Аб другіх пародах, як дацкая і інш. я не гавару таму, што іх на Беларусі няма. Гэтыя пароды будуць таксама вывучацца на дасьледчай станцыі. Мясны адкорм вядзецца да 7-8 месячнага ўзросту, пакуль сьвіньні не дасягнуць 5-6 пудоў. Паўсальны адкорм бывае ад



Матка „Любоў“ з парасятамі сьвінзавода «Івань» Слуцк. р., Бабр. акр. Узрост 2½ г. жывая вага 16 п., парасяты 2 мес., жывая вага 35 фун.

6 да 9 пудоў. На Беларусі мясцовыя сьвіньні і не дасягаюць большай вагі. Сальны адкорм—ад 9 п. і вышэй да 18 пудоў. Гэта вага можа быць дасягнута толькі ў пародзістых сьвіней. На сальны адкорм могуць ісьці сьвіньні розных гатункаў.

Пытаньні догляду сьвіней, а таксама розныя памяшканьні і іншае не павінны брацца пакуль што сялянамі для досьледаў. Гэтыя пытаньні павінны будуць граць значную ролю толькі з павышэньнем культурнасьці сьвінагадоўлі. Ды к таму-ж яны патрабуюць некаторага абсталяваньня, як градусьнік і інш.

Самым важным і самым цікавым пытаньнем для сялян пры пастаноўцы досьледаў павінны быць досьледы з карменьнем. Гэта пытаньне можа быць у некаторай ступені высьветлена і самімі сялянамі, ды яно і знаходзіцца ў іх у самым вялікім занядпадзе. Тут паўстае вельмі важнае пытаньне, якімі кармамі адкармліваць сьвіней, якія ім даваць дачы, каб зрабіць адкорм самым карысным для гаспадаркі і даць

прадукт, каб яго можна было вывезьці ня толькі на мясцовы рынак, але і на замежны. У сусьветнай літаратуры пакуль што знаходзяцца ня зусім пагоджаныя даныя аб спажыўнасьці кармоў, аб іх якасьці і уплыву на сьвіныя прадукты. Гэта і зразумела, таму што розныя краіны, дзякуючы розным глебавым, кліматычным і іншым умовам, даюць рознай каштоўнасьці корм. У Даніі добра высьветлены суадносіны каштоўнасьці корму аднаго з другім для адкорму сьвіней.

Па Дацкіх даных будзе:

1 ф. зярнят (ячменю, жыта, ці пшаніцы) раўназначны
1 ф. здыманага малака
12 ф. сыроваткі (пасьля варкі галянскага ці іншага сыру)
4 ф. бульбы сярэдняй
8 ф. буракоў
1 ф. макухі.

Гэтыя даныя могуць пакуль што ужывацца і нашымі сялянамі, бо паверка іх надта складаная і наўрад ці можа быць зроблена дасканала сялянамі-дасьледчыкамі.

Таксама высьветлена добра ў Даніі, колькі патрэбна корму ў розныя ўзросты для мяснога адкорму. Калі паказаць гэта па каштоўнасьці ў зярнёвых адзінках, у фунтах, дык будзем мець наступнае:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Пры вазе | 50 ф. | даецца на 100 ф. жыв. вагі | 5 ф. | карм. адзінак |
| „ „ | 100 „ | „ „ „ „ „ | $4\frac{1}{2}$—4 | „ |
| „ „ | 150-200 | „ „ „ „ „ „ | $3\frac{3}{4}$ | „ „ |
| „ „ | 250 „ | „ „ „ „ „ „ | $3\frac{1}{2}$ | „ „ |

З дацкімі данымі супадаюць таксама і нямецкія:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 50 ф. | на 100 ф. даецца | 4,8 | ці на галаву | 2,4 ф. |
| 120 | „ „ „ „ „ | 4,6 | „ „ „ | 5,6 „ |
| 160 | „ „ „ „ „ | 3,8 | „ „ „ | 6,0 „ |
| 220 | „ „ „ „ „ | 3,5 | „ „ „ | 7,7 „ |
| 320 | „ „ „ „ „ | 2,8 | „ „ „ | 9,0 „ |

Гэтымі данымі можна карыстацца на першы час у нас.

Кармы, якія сустракаюцца на Беларусі для адкорму мясных сьвіней наступныя: бульба, ячмень, жыта, авёс, высеўкі, макуха, гарох, малако здыманае і сыроватка. Бульба на Беларусі зьяўляецца галоўным кормам, які будзе ісьці на адкорм сьвіней. Патрэбна адзначыць, што датчане пры адкорме бульбы даюць мала. Немцы ставілі шэраг досьледаў з адкормам мясных сьвіней на добра праваранай і прапаранай бульбе і найшлі, што бульба, як корм, добра паедаецца сьвінямі і дае добрую прыбаўку ў вазе. Якасьць мяса і сала па нямецкіх дадзеных ад бульбы добрая. Трэба зазначыць, што галоўнымі спажыўцамі мясной і пры гэтым лепшай сьвініны зьяўляюцца ангельцы і яны задаюць тон ацэнкі сьвініны на сваём Лёнданскім рынку, чаму нямецкая ацэнка можа быць і не зусім строгая. Трэба, лічыць, што бульба, калі яна скармліваецца ў вялікай колькасьці, дае не смачнае грубаватае мяса, але пры ўмове скармліваньня бульбы 6—12 ф. у мешаніне з другімі зернавымі кармамі і зьнятым малаком, яна дае зусім добрую мясную сьвініну. Пры таннай бульбе і дарагім зярне значна можна патаньніць адкорм сьвіней на бульбе.

Ячмень зьяўляецца надта добрым кормам для мясных сьвіней. Датчане лічаць яго самым лепшым кормам. Ён дае смашнае мяса і сала добрай цьвёрдасьці. На Беларусі ячменю пакуль што мала.

Авёс добры корм, дае смачнае мяса, але мяккаватае сала. Ён добра скарыстоўваецца ў мешаніне з ячменем і другімі кармамі. У апошнія часы адкорму лепш не даваць аўса ці зьмяшаць яго, каб сала было цьвярдзейшае.

Высеўкі могуць ісьці на мясны адкорм, але не ў значнай меры. Гарох зьяўляецца надта добрым кормам для сьвіней. Ён багаты бялкамі, што вельмі неабходна для адкорму мясных сьвіней. Асабліва бялковы корм каштоўны на Беларусі таму, што яго не хапае. Аднак, вялікая колькасьць гароху робіць запор. Лепшай макухай для адкорму сьвіней будзе ільняная. Канапляная макуха для адкорму дрэнна. Макухі больш як 1—1½ф. можна даваць у першыя часы адкорму. Далей яе трэба зьменшыць ці зусім не даваць. Аднак у мешаніне з ячменем і здыманым малаком макуха не робіць дрэннага ўплыву на якасьць сьвініны. Каштоўна макуха, як бялковы корм.

Малако здыманае таксама лічыцца надта добрым кормам для адкорму мясных сьвіней; яно мае многа бялку. Сыроватку таксама добра ўжываць пры адкорме сьвіней. Яе можна даваць у значнай колькасьці ў першыя часы адкорму а потом зьменшыць, бо ня можна ў канцы даваць многа вадзяністых кармоў. Найдзена, што ўсе кармы надта добра задаваць у мешаніне. У гэтых мешанінах можна захоўваць розныя камбінацыі без вялікай шкоды. Аднак у гэтых мешанінах трэба мець заўсёды вядомую колькасьць бялку. Бялковымі кармамі ў нас будуць гарох, макуха і здыманае малако. Асноўнай працай у працягу гэтай зімы будзе для сялян-дасьледчыкаў праверка поруч з сваім сялянскім адкормам ячшчэ і тыпаў адкорму з рознымі бялковымі кармамі. Аб гэтым будзе надрукавана належная інструкцыя. Бялковыя кармы зьяўляюцца вельмі важнымі для мяснога адкорму сьвіней, чаму і пажадана высьветліць, якія з іх будуць добрымі пры адкормах ва ўмовах Беларусі. Улетку добрым бялковым кормам можа быць трава, канюшыны і іншая зелень. Далей пажадана праводзіць досьледы з адкормам з бульбаю ў розных яе колькасьцях, а таксама і з другімі кораньплодамі. Пажадана высьветліць адкорм і з рознымі зярнятамі і пры розных колькасьцях. Над гэтым у бліжэйшыя часы і могуць праводзіцца сялянскія досьледы з мясным адкормам сьвіней, які ў нас павінен далей разьвівацца вельмі шпарка.

Паўсальны адкорм і асабліва сальны мае менш досьледаў, чым мясны. Сальны адкорм вельмі не выгодны, таму што на яго ідуць старыя сьвіньні і яны на адзін фунт прывесу бяруць 6 ф. зярнят, тагды як маладыя мясныя сьвіньні—4ф., а то і менш. Сальны адкорм у нас захоўваецца таму, што мы ня можам перахоўваць мяса ўлетку і акрамя таго, мы маем дрэнныя пароды сьвіней, якія могуць ісьці толькі на сальны адкорам. На 100 ф. жывое вагі патрэбна ў першыя часы адкорму 5, а потым 4½—4 і 3½ ф. зернавых адзінак. На сальны выкорм ідзе розны корм і розныя адкіды кухні і іншае. Пры пастаноўцы досьледаў з сальнымі сьвінямі ў першую чаргу пажадана высьветліць, як можна замяняць авёс

і іншыя зярняты высеўкамі, таму што зярнят у нас у сваіх гаспадарак ня вельмі поўна і прыходзіцца часта купляць высеўкі. Далей пажадана высьветліць велічыню дачы бульбы і караньплодаў пры сальным адкорме. Пры досьледах у першую чаргу скармліваюцца больш рознастайныя і грубыя адкіды, а затлусьцелым сьвіньням даецца галоўным чынам мука з малой колькасьцю бульбы, каб аб'ём быў меншы. Адкорм вядзецца 3—4 месяцы.

Выбар сьвіней на досьлед пры мясным адкорме больш просты і пры ім лягчэй выбраць аднастайных. На досьлед з сальным адкормам выбіраць сьвіней вельмі трудна, таму што з узростам яны патрабуюць не аднолькавую колькасьць корму на 1 ф. прывагі (ад 5 ф. і да 10 ф. зярнавых адзінак). Таксама трэба глядзець, каб на кожны досьлед ставіліся сьвіньні аднэй і тэй жа пароды, бо розныя пароды даюць і розныя вынікі.

С. Журык.

Станцыя па сьвінагадоўлі
Н.-Д. Інстытуту імя Леніна.

---

# Аб пастаноўцы вопытаў па гадоўлі цялят.

## Гутарка 3-я.

У палепшаньні малочнага жывёлаводзтва Беларусі вельмі вялікае значэньне мае правільная гадоўля маладняка. Кепска узгадованыя цялята не разьвіваюцца да нормы, якая ўласьціва пародзе і з недаразьвітымі формамі застаюцца на ўсё жыцьцё.

Многія вопыты і назіраньні розных краін паказваюць, што ўсялякая жывёла асабліва хутка расьце ў маладым узросьце. Напрыклад, досьледы праведзеныя на Горацкай вопытнай станцыі над узростам цялят ангельскай пароды паказваюць, што цёлкі, якія маюць у сярэднім жывой вагі пры нараджэньні 67 фун. вырастаюць у шэсьць м-цаў да 314 фун., гэта значыць, што за 6—м-цаў кожная прыбавілася на 247 фун. або ў суткі 1,36 фун.

Тыя-ж цяляты ва ўзросьце з 2 да 2½ год прыбаўляюцца толькі на ½ фун. у суткі. Як відаць, у першыя шэсьць м-цаў жыцьця ўзрост ідзе хутка, а потым зьніжаецца. Адгэтуль належыць, што калі мы хочам атрымаць добра ўзгадаваную жывёлу, дык павінны асаблівую ўвагу зьвярнуць на гадоўлю цялят у маладым узросьце.

Тое, што мы зможам улажыць у цяля, застанецца на заўсёды, а што ўпусьцім у маладым узросьце, дык потым нічым не нагоніш.

Якія-ж павінны быць нормы для правільнага ўзгадаваньня цялят? Адказваючы на гэта пытаньне, трэба сказаць, што ня існуе гэтакай кармовай нормы, якая была-б прыгодна для ўсіх выпадкаў узгадаваньня цялят. Тлумачыцца гэта проста: папершае, цялята бываюць розных парод, рознай велічыні, маюць розную здольнасьць к узросту; адны могуць прырастаць у дзень 2—2½ фун. і больш, а другія як іх ні кармі, ня змогуць прырасьці больш, як на 1—1½ ф. у суткі, падругое гаспадарчыя ўмовы, у якіх гадуюцца цялята, таксама ня ўсюды бываюць аднолькавыя, а праз гэта і кармовая норма для іх павінна быць розная. Напрыклад, калі гаспадар лічыцца членам малочнай арцелі і збывае ў яе нязбыманае малако, а малочная арцель перарабляе малако на масла,

дык адкідам перапрацоўкі будзе здыманае малако, якое члены арцелі могуць атрымаць назад. Маючы ў дастатку здыманае малако,. гаспадару ёсьць магчымасьць так гадаваць цялят, каб у кармовую дачу цяляці ўваходзіла больш здыманага, а дачу няздыманага малака, без якога зусім абыйсьціся ня можна, трэба зьменшыць да самай невялічкай колькасьці.

У другім выпадку, калі ў гаспадарцы няма здыманага малака, дык гадаваць прыдзецца іначай: у пачатку няздыманым малаком, а потым разбаўляючы яго вадою і падсыпаючы мучнога корму.

Такім чынам, у розных выпадках, па неабходнасьці, прыходзіцца гадаваць цялят не аднолькава. Дзеля кожнага выпадку трэба змагчы падабраць лепшую кармовую норму. У сучасны час раіцца многа кармовых норм дзеля цялят. Сьпіс многіх з іх можна найці ў справачніку па жывёлагадоўлі праф. Е. А. Багданава.

Трэба, аднак, сказаць, што калі прыходзіцца выбіраць з іх норму да тых ці іншых умоў гадоўлі цялят, заўсёды паўстае пытаньне, на якой норме прыпыніцца і якая з іх лепшая. Атрымаць дасканалы адказ на гэта пытаньне можна толькі праз спрабаваньне розных норм. Дзеля гэтага неабходна пастаноўка вопытаў. Толькі па выніку гэтых вопытаў мы зможам устанавіць больш падыходзячую норму для гадоўлі цялят у розных гаспадарчых умовах.

Асабліва вырашанымі гэтыя пытаньні будуць тады, калі яны будуць праведзены ў сялянскіх гаспадарках. Бяручы пад увагу ўсё вышэй сказанае, часопіс «Плуг» заклікае таварышоў сялян, якія змогуць правесьці ў сваіх гаспадарках вопыты, прыняць у гэтым удзел.

Дзеля пачатку гэтай вопытнай працы мы раім спрабаваць наступныя нормы:

| Тыдні | Малака фун. | | | | | | | Кожны дзень на галаву | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Дні | | | | | | | | | | | | |
| | 1 д. | 2-і | 3-і | 4-ы | 5-ы | 6-ы | 7-ы | Вотруб'е пшанічн. | Аўсяная мука | Макуха ільняная | Мука ільняная | Сена | |
| 1 | 3 | 5 | 6 | 7 | 8 | 8 | 8 | | | | | | |
| 2 | 9 | 9 | 9 | 9 | 10 | 10 | 10 | | | | | | |
| 3 | 10 | 10 | 10 | 10 | 11 | 11 | 11 | | | | | | |
| 4 | 11 | 11 | 11 | 11 | 11 | 11 | 11 | 1/8 ф. | 1/8 ф. | 1/8 ф. | 1/8 ф. | Сена ўволю | Аўсянка павінна быць прасеяна |
| 5 | 10 | 10 | 10 | 10 | 10 | 9 | 9 | 1/2 „ | 1/4 „ | 1/4 „ | 1/4 „ | | |
| 6 | 9 | 9 | 8 | 8 | 8 | 8 | 7 | 1/2 „ | 1/2 „ | 1/2 „ | 3/8 „ | | |
| 7 | 7 | 6 | 6 | 6 | 5 | 5 | 5 | 1/2 „ | 1/2 „ | 1/2 „ | 3/8 „ | | |
| 8 | 5 | 4 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 1 „ | 1/2 „ | 1/2 „ | 1/2 „ | | |
| 9 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 „ | 3/4 „ | 3/4 „ | 1/2 „ | | |

У далейшым да 3½ месячнага ўзросту цяля атрымлівае 3 фун. тых-жа спажыўных кармоў і добрага сена ўволю (пажадана канюшыны). З трох да 4-х м-цаў колькасьць спажыўнога корму, складзе-

нага з мешанкі вобтур'я, ільнянай макухі і аўсянай мукі, павялічваецца да $3\frac{1}{2}$ фун. у суткі і сена ўволю. З 4 да 5-ці месяцаў кольказсьць спажыўнога корму даводзіцца да 4—$4\frac{1}{2}$ фун., а сена таксама ўволю.

Калі-ж цялята выйдуць на пашу, дык атрымоўваюць дадатак спажыўнога корму 3—4 фун. у суткі. З месячнага ўзросту цялятам патрэбна даваць крэйду (мел) пачынаючы з паловы чайнай лыжкі і паступова павялічваюць з такім рахункам, каб к аднаму году даваць каля 2 чайных лыжак.

Для тых умоў, дзе ёсьць здыманае малако, можна раіць наступныя нормы:

| Тыдні | Малака ў суткі (фунт.) | | | | | | | | | | | | | | Кожны дзень на галаву (ф.) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 д. | | 2-і д | | 3-і д. | | 4 ы д. | | 5-ы д. | | 6-ы д. | | 7-ы д. | | | | | | |
| | Здыман. | Няздыман. | Здыман. | Няздыман. | Здыман. | Няздыман. | Здыман. | Няздыман. | Здыман. | Няздыман. | Здыман. | Няздыман. | Здыман. | Няздыман. | Вотрубі пшан. | Аўсяная мука | Ільняная макуха | Ільняная мука | Сена |
| 1 | — | 3 | — | 5 | — | 6 | — | 7 | — | 8 | — | 8 | - | 8 | — | — | — | — | |
| 2 | — | 9 | — | 9 | - | 9 | 1 | 9 | 1 | 9 | 1 | 9 | 2 | 9 | — | — | — | — | |
| 3 | 2 | 10 | 2 | 10 | 3 | 10 | 3 | 10 | 3 | 10 | 4 | 10 | 4 | 10 | — | — | — | — | |
| 4 | 4 | 10 | 6 | 9 | 6 | 9 | 8 | 8 | 8 | 8 | 10 | 7 | 11 | 6 | $\frac{1}{8}$ | $\frac{1}{8}$ | $\frac{1}{8}$ | $\frac{1}{8}$ | Аўсянка прасеян. |
| 5 | 12 | 5 | 13 | 4 | 14 | 3 | 15 | 2 | 16 | 2 | 17 | 1 | 18 | 1 | $\frac{1}{4}$ | $\frac{1}{4}$ | $\frac{1}{4}$ | $\frac{1}{4}$ | |
| 6 | 19 | — | 19 | — | 19 | — | 19 | — | 19 | — | 19 | — | 19 | — | $\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{2}$ | $\frac{3}{8}$ | |
| 7 | 20 | — | 20 | — | 20 | — | 20 | — | 20 | - | 20 | — | 20 | — | $\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{2}$ | $\frac{3}{8}$ | |
| 8 | 19 | — | 19 | — | 19 | — | 19 | — | 19 | — | 19 | — | 19 | — | $\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{2}$ | |
| 9 | 18 | — | 18 | — | 18 | — | 18 | — | 18 | — | 18 | — | 18 | — | 1 | $\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{2}$ | |
| 10 | 17 | — | 17 | — | 17 | — | 17 | — | 17 | — | 17 | — | 17 | — | 1 | $\frac{1}{2}$ | 1 | — | |
| 11 | 16 | — | 16 | — | 16 | — | 16 | — | 16 | — | 16 | — | 16 | — | 1 | $\frac{1}{2}$ | 1 | — | |
| 12 | 15 | — | 15 | — | 15 | — | 15 | — | 15 | — | 15 | — | 15 | — | 1 | 1 | 1 | — | |
| 13 | 14 | | 14 | — | 14 | — | 13 | — | 13 | — | 13 | — | 12 | — | 1 | 1 | 1 | — | |
| 14 | 12 | — | 12 | - | 11 | — | 11 | — | 10 | — | 10 | — | 9 | — | $1\frac{1}{2}$ | 1 | 1 | — | |
| 15 | 9 | — | 8 | — | 8 | — | 7 | — | 7 | — | 6 | — | 6 | — | $1\frac{1}{2}$ | 1 | 1 | — | |
| 16 | 5 | — | 5 | — | 4 | — | 4 | — | 3 | — | 3 | - | 2 | — | $1\frac{1}{2}$ | 1 | 1 | — | |

У далейшым цяля атрымоўвае $3\frac{1}{2}$—4 фун. мешанкі спажыўнога корму і канюшыны ўволю, а калі настане паша, дык у дадатак даваць 3—4 фун. спажыўнога корму.

Каб ведаць аб прыросьце цяляці, неабходна яго важыць раз у месяц, але калі вагі няма ў гаспадарцы, дык замест важаньня трэба

абмяраць цялё кожны месяц санцімэтравай стужкай (каштуе 30—40 к.). Абмерыць трэба абхоп грудзей за лапаткамі, абхоп жывата ў самым тоўстым месцы, вышыню ў холцы і даўжыню тулаба.

Пры правядзеньні вопытаў па ўзгадоўлі цялят неабходна выпаўняць наступныя правілы:

1. Карміць цялят тры разы ў суткі і ня даваць халоднага корму.
2. Пры кармленьні захоўваць вялікую чыстату.
3. Цялят дзяржаць у такіх памяшканьнях, дзе было-б у дастатку сьвежага паветру, сьвятла і дзе цялятам ёсьць пагулянка.
4. Прывучаць к новаму корму неабходна паступова, захоўваючы вялікую асьцярожнасьць пры зьменах корму.
5. У наступны раз намі будуць дадзены другія пажаданыя для праверкі кармовыя нормы для цялят.

**Н. Найдзёнаў.**

---

# Досьледы па малочнай гаспадарцы.

## Гутарка 4-я.

Ва ўмовах сельскай гаспадаркі Беларусі малочнае жывёлаводзтва мае вялікае значэньне. Так, за 1926/27 г. з агульнага прыбытку ад сельскай гаспадаркі ў 611,8 мільёнаў рублёў, на прадукцыю жывёлаводзтва прыходзіцца 179,2 мільён. руб., у тым ліку на малако—68,1 міл. руб. Сялянскія двары штогодна прадаюць на рынку каля 20 проц. усіх малочных прадуктаў, якія здабываюцца ў гаспадарцы. У мінулым годзе атрымана за малако каля 13,6 мільёнаў руб. Гэтыя сродкі ўліліся ў сялянскія двары і пашлі на пашырэньне і ўзмацненьне сельскай гаспадаркі. Паказаныя лічбы яскрава сьведчаць аб тым, якое значэньне мае малочная гаспадарка. Задача гаспадароў—накіроўваць гаспадарку ў бок павялічэньня прыбытку ад малочнай справы.

Якімі-ж спосабамі гэтага можна дасягнуць?

Першая і чарговая задача ў гэтым напрамку—палепшыць якасьць прадукцыі, якая ідзе на рынак. Гаспадары, якія жывуць далёка ад рынку сбыту, прымушаны малако перапрацоўваць і прадаваць ужо масла і тварог. Часьцей усяго гаспадаркі выпрабляюць масла хатнім спосабам, калі масла выходзіць нізкай якасьці.

Меншая частка гаспадарак Беларусі перапрацоўваюць малако ў масла і сыр сумесна на арганізованых імі арцельных масларобчых заводах. У сучасны момант такіх заводаў ёсьць звыш 200 штук. Той гаспадар, які перапрацоўвае і прадае лішкі малака праз завод, палучае за малако больш у параўнаньні з тым, які малако перапрацоўвае хатнім спосабам.

Чаму гэта так. Папершае, масла, якое здабыта на заводзе, лепшае па сваёй якасьці, праз гэта і цана на яго на рынку большая. Пры хатнім спосабе масла атрымліваецца з кіслай сьмятаны, розных сартоў, кепска прамытае, дрэннае па смаку, хутка псуецца. Падругое, на масларобным заводзе адзін фунт масла выходзіць з 22 фунтаў малака, а пры хатнім выпрабу на фунт масла ідзе да 30 фун. малака. Патрэцяе, пры завадзкім выпрабу масла гаспадару ня трэба траціць час на збор малака, вазіцца на рынак і г. д. Завод прадае масла праз коопэрацыйны саюз. Заводу выраб і збыт масла абыходзіцца дзеша-

вей, чым кожнаму гаспадару ў паасобку. Але далёка ня ўсе гаспадары аб гэтых разрахунках ведаюць. У гэтым напрамку ў нас мала праведзена досьледаў. Трэба лічбамі яскрава высьвятліць сялянам усю карысьць ад вырабу масла на заводах і што туды трэба несьці лішкі свайго малака.

Гаспадаром, якія жывуць побач з маслазаводамі, трэба правесьці ў сваіх гаспадарках гэты досьлед. Для досьледу трэба будзе на працягу двух-трох тыдняў зьбіраць сьмятану, вырабляць з яе масла і тварог і гэты прадукт прадаць, пры гэтым запісаць колькі ўзята малака, колькі вышла масла і тварагу, колькі патрачана часу і колькі выручана на рынку. На заводзе-ж трэба будзе запытацца, колькі ён плаціць сялянам за малако ў той час. Тут палучацца дзьве лічбы, якія пакажуць, што гаспадару карысьней.

Другое чарговае заданьне—павялічыць удоі кароў, чаго можна дабіцца праз палепшанае кармленьне і адбор лепшых кароў. Ад сакавітага корму (бульбы, караньплодаў) і спажыўнога, як макуха і высеўка, карова павялічвае ўдой. Але тут прыходзіцца мець на ўвазе, што павялічаць корм можна да вядомай нормы, звыш якой корм малаком аплачвацца ня будзе. Трэба высьветліць, да якой колькасьці можна падвышаць у нормах вагу макухі, караньплодаў і г. д. пакуль карова можа аплачваць іх. Кожны гаспадар павінен будзе і гэтым заняцца.

Як гаспадару выбраць лепшую карову, ад якой гадаваць цяля? Калі карова дае больш малака, дык гэта яшчэ ня сьведчыць, што яна лепшая. Адна карова дае жырнае малако, а другая вадзяністае; адна карова нізка аплачвае зьедзены корм, а другая высока. Напрыклад, у гаспадарцы ёсьць тры каровы, якія на працягу году зьелі корму і далі малака:

| НАЗВА КАРОВЫ | Зкормлена корму (кармовых адзінак) | Атрымана малака (фун.) | Процант жыру ў малаку | Усяго палучана жыру | На 100 кармовых адзінак палучана | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Малака (фун.) | Жыру (фун.) |
| Красуля . . . . | 1.800 | 2.880 | 3,2 | 92,0 | 160 | 5,0 |
| Рабая . . . . | 1.700 | 2.380 | 4,2 | 98,9 | 140 | 5,8 |
| Лабатка . . . . | 2.300 | 2.990 | 3,0 | 89,7 | 130 | 3,9 |

Калі выбіраць кароў толькі па ўдою, дык лепшай будзе Лабатка, але калі мы паглядзім, дык яна будзе самая дрэнная ў параўнаньні з першымі каровамі. Калі малако ідзе на рынак сьвежым ці на сыр, дык самая лепшая карова Красуля, бо яна дае на 100 кармовых адзінак 160 фун. малака, (больш другіх). Калі-ж малако перапрацуецца на масла, дык найлепшай каровай зьяўляецца Рабая. Такі досьлед дасьць магчымасьць селяніну падабраць для гаспадаркі лепшых кароў і ад іх заставіць на племя цялят, а таксама можна падлічыць, колькі гаспадарцы каштуе адзін фунт малака і фунт жыру. Цікавым пытаньнем зьяўляецца і такі досьлед: як у залежнасьці ад адлегласьці да рынку збыта карысьней прадаваць малако сьвежым ці перапрацаваным на масла.

У самым горадзе і блізка ад яго малако карысьней прадаваць сьвежым. Але чым далей ад гораду, тым выдаткі на дастаўку малака павялічваюцца і ёсьць такі пункт, калі выдаткі на столькі выходзяць вялікія, што больш карысьці перапрацоўваць малако ў масла.

Можна праверыць гэта аднаму гаспадару і можна падлічыць, які палучыцца разрахунак, калі група некалькіх гаспадарак аб'яднаюцца і будуць сумесна вазіць малако ў горад. Разрахунак можна рабіць на кожныя 100 ці 50 пуд. малака. Калі ў 15—20 вярстах ад гораду ёсьць масларобны завод, дык гэтыя лічбы лёгка параўнаць з лічбамі аплаты малака па маслу.

Такім чынам, галаўнейшыя пытаньні па малочнай гаспадарцы наступныя:

1. Высьвятліць розьніцу аплаты малака перапрацаванага на масла хатнім спосабам і праз арцельны завод.

2. Вызначыць кошт адзінкі малака і жыру для гаспадаркі.

3. Высьветліць вышэйшыя нормы дачы корму ў залежнасьці ад аплаты яго малаком.

4. Зрабіць выбар найлепшай каровы ў сваім статку па аплаце корма малаком і жырам.

5. Вызначыць пункты па збыту сьвежага малака і ў форме масла ў залежнасьці ад адлегласьці да гораду і колькасьці збываемага малака.

**А. Рыбакоў.**

---

## Паштовая скрынка.

Селяніну *А. Старавойтаву*. У Вашым пляне хаты няма разьмераў, чаму нельга даць і кошту пабудовы. Пабудова пры хаце кладоўкі вельмі мэтазгодна, бо рабіць паасобны сьвіран не пажадана.

Сел. *А. Карнейчыку*. Падпіска на „Плуг" будзе зроблена.

*Б. Фейгіну* (м-ка Старасельле). Дзеля таго, каб быў матэрыял для артыкулаў, трэба працуючы ў гаспадарцы, уводзіць што-небудзь новае. Выслалі Вам брашуру „Сялянскі с.-г. досьлед на БССР".

*Г. Воўку*. Ваш артыкул № 11 атрымалі.

*А. Фурса*. Для прыёма падпіскі Вам выслалі інструкцыю, пасьведчаньне і квіт. кніжку.

Сел. *С. Каур*. Вашы два рукапісы атрымалі („Сілос" і Сад"). Па мажлівасьці скарыстаем іх у №№ „Плуга". Дайце апісаньне культурных дасягненьняў Вашай гаспадаркі.

**Вышлі з друку:**

1. *Зьм. Прышчэпаў* — Сельская гаспадарка Усходняй Прусіі і Даніі ў параўнаньні з Беларускай . . . — 10 к.

2. *Т. Анціпенка* — Прыборка, захаваньне і перавозка бульбы . . . . . . . . . . — 12 „

3. *С. Тупяневіч*—Сялянскі с.-г. досьлед на БССР . — 15 „

4. Праф. *У. Пічэта*—История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии, I ч. . . . . 1 р. 80 к.

**Выдавецтва НКЗ, Менск, Савецкая 71.**

---




## Зьбірайце лясное насеньне.

За апошнія гады, калі лясная гаспадарка пачала станавіцца на больш менш правільны шлях свайго разьвіцьця, адчуваецца надта вялікая патрэба ў зборы ляснога насеньня. Раней, калі лясы належылі да розных прыватных уласьнікаў, гэта пытаньне не магло стаяць так гостра на чарзе дню, бо тады як хто хацеў, так і аднаўляў свае лясныя плошчы: хто ўжо нават і вельмі пільна сачыў за аднаўленьнем сваіх лясных плошчаў, а большасьць уласьнікаў зусім на гэта не зварочвала ўвагі, з гэтай прычыны побач з прыгожымі ляснымі культурамі мы сустракаем вельмі многа пустыроў. Вось на гэтыя зьнішчаныя лясныя плошчы і трэба зьвярнуць увагу ў першую чаргу, бо яны самі за сябе гавораць, што тут натуральнага аднаўленьня лесу ня будзе. А калі гэта так, то перш за ўсё трэба загатовіць ляснога насеньня і тады толькі можна будзе ўжо разважаць, што лепш пасеяць, альбо пасадзіць. А сеяць ці садзіць лес трэба ня толькі на пустырох, але і на высечках (лесасеках) апошніх гадоў. Аб гэтым сьведчаць таксацыйныя вопісі нашых лесаўпарадкаўчых партый. З гэтых вопісяй мы бачым, што ня толькі старыя пустыры, але і высечкі апошняга часу ў значнай меры натуральна не аднаўляюцца: яны патрабуюць штучнага аднаўленьня. А правільны шлях разьвіцьця ляснай гаспадаркі патрабуе, каб лясныя плошчы, на якіх лес высечаны, як мага хутчэй аднаўляліся лесам.

З адзначанага відавочна, што патрэбна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу, каб забясьпечыць нашы лясьніцтвы лясным насеньнем. Цэнтральныя Ўстановы на гэта ўжо зьвярнулі належную ўвагу і водпуск патрэбных сродкаў на збор ляснога насеньня робіцца своечасова. Трэба толькі на мясцох выканаць у поўнай меры тое, што магчыма зрабіць ў гэтым напрамку. Мне здаецца, што трэба:

1) Шырока абвесьціць насельніцтва, калі якое насеньне зьбіраць, і дзе яго здаваць.

2) Выплату рабіць своечасова па прыёмцы на месцы здачы насеньня.

і 3) Цераз лясную варту паказаць месцы, дзе найлепш і карысьней рабіць самы збор насеньня.

А цяпер перайду да апісаньня збора насеньня розных парод.

1. Збор хваёвых шышак трэба пачынаць ў тую пару, калі ўжо пачаліся сталыя марозы, бо к гэтаму часу заканчваецца пэрыяд высьпеваньня хваёвага насеньня. Шышкі зьбіраюцца з растучых дрэваў і



павінны быць здаровымі, без ніякіх пашкоджаньняў. Таксама нельга падбіраць шышкі на зямлі, бо гэта пашкоджаныя: яны недаразьвіліся і насеньне ў іх альбо хворае, ці ня зусім дасьпеўшае, чаму яно і ня дасьць добрых усходаў, альбо зусім будзе пустое. Раскрытыя шышкі, калі яны і сядзяць на дрэве, таксама ня прыгодны, бо гэта старыя: з іх насеньне ўжо высыпалася за веснавы і летні часы; такія шышкі бракуюцца і зусім ня прымаюцца. лясьніцтвамі. Акрамя таго трэба памятаваць, што, як паказваюць досьледы, шмат якія ганьбы з дрэва праз ўзятае з яго насеньне будуць перадавацца ў спадчыну новаму пакаленьню, чаму збор насеньня трэба рабіць з самых добрых дрэваў. Вось тут, каб не рабіць памылкі, трэба шышкі зьбіраць з тых дрэвастанаў, якія зараз высекаюцца. Такія дрэвастаны ўжо дасягнулі поўнага ўзросту, дык і зьбіраць з іх шышкі, калі яны высекаюцца, лёгка, ня трэба лазіць па дрэвах. А каб ня прапусьціць гэтага часу, дык трэба запытваць у лясной варты, дзе ідзе высечка. З грашовага боку гэта таксама выгадней, бо з паваляных дрэў хутчэй набраць больш шышак, чым з стаячых. А калі заўважыць, што ў нас высечка дзялянак прадаўжаецца ўсю зіму—самы найлепшы час для збору шышак хвойкі—дык можам мець гарантыю, што насеньне будзе добрае.



Хваёвыя семянікі.

2. Збор яловых шышак можна пачынаць раней, як хваёвых, бо шышкі елкі пры цёплай восені часткаю раскрываюцца і насеньне вылятае, але ўсё-ж такі іх можна зьбіраць пачынаючы з лістапада, альбо нават канца верасьня ў працягу ўсёй першай паловы зімы. Трэба толькі наглядаць пры зборы, каб ня было шмат растапыраных шышак і пашкоджаных. Іх таксама найлепш зьбіраць з высякаемых на дзялянках дрэў.

Акрамя адзначанага трэба зшчэ сказаць, што ва ўмовах Беларусі заложаны моцны фундамант да разьвядзеньня і іншых лясных парод, як, напрыклад, мадрына (лиственница), Вэймутава хвоя, ельніца (пихта) і інш., чаму неабходна застанавіцца на зборы насеньня гэтых парод.

3. Шышкі мадрыны зьбіраюцца пачынаючы з восені і ў працягу ўсёй зімы, але іх зьбіраць ужо шмат цяжэй. Праўда, шышкі раскіданы па ўсіх галінах, але галіны надта тонкія і крохкія, чаму пры лазеньні ломяцца. Вось, калі высячкі такіх дрэў няма, дык трэба рабіць даўгія драбіны альбо, залезшы на дрэва, абіваюць палкаю шышкі і тады ўжо зьбіраць іх з зямлі. Тут трэба заўважваць, што на мадрыне шышкі трымаюцца па некольні гадоў і вось, каб сабраць шышкі апош-

няго году, трэба добра прыглядацца. Старыя шышкі, з якіх насеньне высыпалася, маюць чорны колер і больш менш пакрыты ад даўнасьці плесеньню, а свежыя шмат сьвятлейшыя, бяз плесені і з замкнутай луской.

4. Вэймутавай хвоі шышкі ўжо гатовы да збору, як гэта наглядалася за апошнія два гады ў Нёманскім Л-ве, прыблізна ў палове верасьня. Як толькі насеньне пасьпела, дык шышкі расчыняюць сваю луску і насеньне ляціць. Вось тут і трэба сачыць, каб своечасова яго сабраць. З тых прычын, што шышкі сядзяць вельмі высока, зьбіраць іх цяжка, трэба на доўгім кіі мець сучкарэз і адразаць іх з маленькімі галінкамі, пачынаючы з паловы, альбо на трэць галінкі ад канца.

5. Ельніца дае таксама шышкі на сваёй верхавіне, якія не зьвісаюць уніз, а стаяць старчма. Пасьпявае насеньне ў другой палове верасьня. Шышкі зараз жа раскідваюцца: луска адлятае разам з насеньнем, а застаецца голы тонкі стрыжань, на абапал якога сядзела насеньне. Зьбіраць шышкі, можа раней, калі яны яшчэ трымаюць насеньне, і дасушваць у будынках. Зьбіраць насеньне ельніцы, можна і непасрэдна з дрэва, калі насеньне ўжо рыхтуецца к вылёту. Трэба толькі пробаваць яго, каб не спазьніцца.

6. Кедр сібірскі зьбіраецца шышкамі ў першай палове верасьня. Шышкі можна абіваць лёгкім кіем, стоячы на драбіне, калі шкадуюць папсаваць яго карону асабліва ў парках, дык можна здымаць шышкі і пры дапамозе сучкарэзу.

Што-ж да збору насеньня лісьцяных парод, дык на іх я ня буду затрымліваццa, бо насеньне іх пасьпявае ў самы розны час.

Тут лічу патрэбным адзначыць, што збор ляснога насеньня неабходна павялічваць з кожным годам. У тых лясьніцтвах, дзе маюцца насеньнесушыльні і насеньне загатоўліваецца ў значнай колькасьці, шмат слабейшых і бяднейшых сялян змогуць найці сабе нават добры заработак.

Т. Гаўрыловіч.

---

# Паляўніцтва і ахова прыроды ў БССР.

Ніколі пытаньні паляўніцтва і аховы прыроды ня былі ў нас у такой цеснай сувязі, як цяпер, пасьля вайны, пасьля зруйнаваньня старога панскага ладу і ўсіх вынікаючых з гэтага абставін. Паляўніцтва ў даваенны час, ня мела такой шырокай распаўсюджанасьці, як цяпер. Даволі будзе ўспомніць, што па ўсёй Беларусі лік сяброў Саюзу Паляўнічых падыходзіць ужо да 30.000 чалавек (!) (адзін толькі Менск налічвае звыш 500 паляўнічых), і прадаўжае шыбка расьці, ня гледзячы на тое, што колькасьць зьвярыны ўвесь час зьмяншаецца. Асноўную масу паляўнічых складае цяпер сялянства, якое ў мінулым мела, ў гэтым сэнсе, як раз найгоршыя ўмовы, папершае, тэрыторыяльна, бо паляўніцтва было забаронена і на дзяржаўных і на панскіх землях, а падругое—дзякуючы сваёй матэрыяльнай абмежаванасьці. Цяпер, пасьля Кастрычніка, іменна гэтыя дзьве прычыны зьнішчаны: паляўніцтва дазволена па ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюзу (апрача спэцыяльных вучасткаў, т. зв. ахоўнікаў), а затым—селянін жыве цяпер у непараўнальна лепшых матэрыяльных умовах. Калі да вайны і рэвалюцыі немагчыма было ўгледзець у селяніна-паляўнічага іншае

стрэльбы як шомпальнай паядынкі і, ў лепшым выпадку, дубальтоўкі,—дык цяпер шмат каторыя з паляўнічых на вёсцы маюць вельмі добрыя, цэнтральнага бою, стрэльбы, аб якіх раней яны і думаць не маглі. Такім чынам, уплыў Кастрычнікавай рэвалюцыі на ўзрост ліку паляўнічых сярод асноўнай масы насельніцтва—сялянства, зусім відавочны.

Але ёсьць у гісторыі паляўніцтва (асабліва беларускага) і іншыя моманты, непасрэдна зьвязаныя з вайною і рэвалюцыяй. Паляўніцтва, якое да рэволюцыі было, фактычна, прывілеем заможных клясаў, выклікала на працягу вякоў выразна адмоўныя адносіны да сябе з боку масы сялянства. Гісторыя дае нам шэраг абураючых прыкладаў эксплёатацыі ў гэтым напрамку, як на Захадзе, так і ў нас, скіраванай на правы і асобу селяніна-земляроба, ў эпоху панскага фэўдалізму. Зусім не выпадкова тое, што адным з першых дамаганьняў лібэральных партый у часе Француськай рэвалюцыі 1789 году, а пасьля ў 1848 г. ў Нямеччыне і Аўстрыі—было скасаваньне выключнага права на паляваньне для шляхты і паноў, разам з цяжкімі падаткамі і павіннасьцямі, якія былі злучаны з гэтым, для сялян.

І ў нас, зусім таксама як на Захадзе, зараз-жа пасьля скасаваньня фэўдальнага рэжыму і былых абмежаваньняў, у першыя годы рэвалюцыі і грамадзянскай вайны паляўнічая фаўна, асабліва зьвярына, была надта моцна вынішчана, як лясьнікамі, так і сялянамі-паляўнічымі, якія ладзілі аблавы ў былых панскіх і дзяржаўных лясох. Даволі было двух-трох гадоў, каб насельніцтва нашых лясоў, і без таго лічанае, у цэлым шэрагу раёнаў было вынішчана. Асабліва пацярпела пры гэтым буйныя паляўнічыя фаўна—л о с ь, д з і к, к а з у л я, м я д з ь в е д з ь. Не малы ўплыў меў тут і безперарыўны дышматгадовы ваенны фронт, які перацінаў беларускія лясы ў розных напрамках. Паралельна да паданых падзеяў ішла усіленая вырубка лясоў і вольная паша па лясох сялянскага быдла. Гэта агульна-вядомыя і зусім відавочныя прычыны, якія выклікалі калёсальную ўбогасьць на дзіч у нашых лясох.

Што-ж зроблена альбо робіцца ў нас на Беларусі, дзеля таго, каб аднавіць ці захаваць так заняпаўшае паляўніцтва? Каб ясьней выявіць той пачатковы стан рэчаў, ад якога прыходзілася пачынаць справу, я дазволю сабе падаць некалькі прыкладаў—ілюстрацый да гэтага пытаньня. Прыклады гэтыя запазычаны з нашай спэцыяльнай працы па вывучэньні паляўнічай гаспадаркі Беларусі, аб якой я ўжо меў магчымасьць гаварыць у кароткіх словах, на 7-м Зьезьдзе Ўпаўнаважаных Саюзу Паляўнічых, у маі м-цы бягучага году. У выніку спэцыяльнага анкетнага і экспэдыцыйнага абсьледваньня стану паляўнічай фаўны па ўсіх акругах у 1923-25 г.г., удалося скласьці карты сучаснай распаўсюджанасьці некаторых, найбольш каштоўных зьвяроў. Раўнуючы гэтыя даныя з данымі аб стане фаўны да вайны 1914 году,—прыходзіцца зазначыць рэзкае зьмяншэньне колькасьці зьвярыны нагул, і поўнае зьнікаваньне некаторых відаў яе на абшары цэлых акругаў. Так, напрыклад: л о с я—ў Магілеўскай, Аршанскай, Калінінскай і Полацкай акругах; м я д з ь в е д з я—у Калінінскай, Мазырскай, Полацкай; д з і к а—ў Полацкай і Віцебскай акругах. Апрача гэтага, па ўсіх іншых акругах процант лясных вучасткаў заселеных гэтымі і іншымі відамі лясной фаўны (напр., казуляй), у параўнаньні з даваенным часам значна паменшыўся. Дыяграмы, і к а р т а рас-

паўсюджанасьці лося паводле ўспомненага абсьледваньня, найлепш пацьвярджаюць гэта.

У аднолькавым палажэньні апынулася і птаства, асабліва лясное (г л у ш э ц). Што датычыць да відаў, якія дабываюцца болей лёгка, як, напр., вавёрка, куніца, выдра,—дык зразумела, што і яны былі месцамі амаль начыста выбіты.

Дыяграма распаўсюджаньня казы 1915-1925




Дыяграма распаўсюджаньня мядзьведзя 1915-1925 гг.




Дыяграма распаўсюджаньня: дзіка 1915-1925 г.







Такі стан рэчаў ня мог не зьвярнуць на сябе ўвагі з боку адпаведных грамадзкіх, навуковых і ўрадавых органаў. Як толькі былі зьліквідаваны фронты грамадзянскае вайны, мы бачым, як разам з агульным уздымам гаспадарчага будаўніцтва ў новай краіне, паступова, шэрагам дэкрэтаў і практычных мерапрыемстваў, зруйнаваная паляўнічая гаспадарка пачынае ажываць, а руйнуючыя процэсы ў яе організьме спыняюцца. Аднак, нельга сказаць, што ўжо цяпер дасягнены намі бліскучыя вынікі. Гэтага яшчэ няма, але мы ўжо заўважылі свае хібы і выразна сталі на шлях да адбудовы паляўніцтва.

Якія-ж іменна мерапрыемствы Савецкае ўлады дазволілі нам стаць на гэты аздараўляючы шлях?

Перад усім, праз утварэньне адзінага коопэрацыйнага аб'яднаньня Саюзу Паляўнічых, па-за каторым ніхто ня можа легальна займацца паляваньнем, было амаль што выкаранена браконьерства; з другога боку, саюзная дысцыпліна ў значнай ступені ўпарадкавала спосабы паляваньня, тэрміны і г. д.

Затым, шырокае абгаворваньне пытаньняў паляўніцтва на мясцох, а пасьля і ў цэнтры, ў часе зьездаў упаўнаважаных, дазваляе выяўляць усе-чыста хворыя бакі пытаньня, і зараз-жа на іх рэагаваць.

Савецкае законадаўства, якое чула адносіцца нават да паасобных, параўнальна дробных, зьяў жыцьця, таксама адзываецца і адзывалася на шэраг пільных пытаньняў паляўніцтва. Правілы і законы аб паляўніцтве пацьвярджаюць гэта як найлепш. Поўная забарона паляваньня на шэраг зьнікаючых і рэдкіх зьвяроў (лось, бабёр, казуля, дзік, куніца і г. д.) была праведзена без ніякіх хістаньняў, пасьля першых выказаных пажаданьняў у гэтым сэнсе. Частковая забарона паляваньня на белку (вавёрку), з мэтаю адраджэньня яе, таксама гаворыць аб уважных адносінах да інтарэсаў паляўніцтва.

Апошнія мерапрыемствы, як будзе паказана далей, выкліканы ня толькі імкненьнем да адраджэньня паляўнічай фаўны, альбо дзякуючы экономічным меркаваньням. У самым пачатку гэтага артыкулу было сказана, што цяпер пытаньні паляўніцтва і аховы прыроды пераплецены паміж сабою як ніколі. І запраўды, тое зьбядненьне фаўны, аб якім гаварылася вышэй, прыняло ў нас характар ня толькі простага зьмяншэньня лічэбнасьці таго ці іншага віду, а значна болей сур'ёзнай зьявы: зьніканьня віду, ў зоолёгічным сэнсе, і ня толькі на нашай тэрыторыі, але і наагул на Зямлі, як гэта мае, напр., месца ў адносінах да зубра (Bison europaeus) і бабра (Castor fiber L.). Такім чынам паўстала пытаньне аб ахове тых ці іншых прадстаўнікоў фаўны ўжо ня толькі дзеля іх экономічнага, паляўнічага значэньня, але як помнікаў прыроды, захаваньне якіх для навукі і будучых пакаленьняў зьяўляецца высока-культурнай і ганаровай задачай сучасьнікаў.

Бадай ці не большую, чым нават драпежніцкае паляўніцтва, ролю ў зьнішчэньні першабытнай прыроды і паасобных складовых яе частак, грае ўзрастаючая чалавечая культура, а, у першую чаргу, культура сельска-гаспадарчая. Гэта культура зьмяняе да непазнавальнасьці твар зямлі і вядзе за сабою поўную зьмену біолёгічных стацый. Шпаркі ўзрост сельска-гаспадарчае культуры і вялізныя пэрспэктывы далейшага яе разьвіцьця ў Савецкай краіне нямінуча выклікаюць пытаньне аб захаваньні вучасткаў альбо куткоў дзікай прыроды, як гэта даўно ўжо робіцца там, дзе процэс прогрэсу ральніцтва пачаўся раней і прыняў болей шырокія разьмеры, чым гэта было ў нас. Выдзяленьне на тэрыторыі БССР так званых заказьнікаў—вучасткаў зямлі, дзе часова забаронена паляваньне,—павінна было дапамагаць размнажэньню ў іх дзічы; гэта часткаю мае ўплыў і на ахову прыроды наагул, бо ў заказьніках абмяжоўваецца ня толькі паляваньне, але па магчымасьці і паша быдла, а таксама рубка лесу. Заказьнікі, ня гледзячы на недахопы ў організацыі і пастаноўцы ў іх справы, даюць ужо некаторыя прыкметныя вынікі ў сэнсе павялічэньня прыросту некаторых відаў дзічы. Так, напрыклад, можна ўпэўнена гаварыць аб

павялічэньні колькасьці за апошнія годы казулі, глушца, мядзьведзя. Усе гэтыя об'екты ахоўваюцца ўсяго толькі на працягу некалькіх год, а вынікі нагэтулькі відавочныя, што аб іх (апрача анкетных зьвестак) гавораць хоць-бы тыя пэтыцыі ад асобных гаспадароў аб дазволе на абарону ад мядзьведзяў, што шкодзяць пасевам і жывёле. Як раз інтарэсы аховы прыроды прымусілі Савецкі ўрад ахоўваць нават мясажэраў—мядзьведзя і барсука, якія, пасьля вайны, апынліся на краі поўнага зьнікацьня з нашай тэрыторыі.

Але нязьмерна болей важнаю мерай па адраджэньні паляўнічай фаўны і ахове прыроды ў цэлым, было стварэньне ў 1925 г. Дзяржаўнага Ахоўніка ў Барысаўскай акрузе. Пры цяжкім эканамічным крызісу, пасьля доўгіх гадоў вайны, якая начыста зруйнавала гаспадарку краіны,—гэты крок Савецкае ўлады не пазбаўлены пэўнага гэроізму. 60.000 дзесяцін ляснога абшару было адведзена пад ахоўнік у той час, калі ў гэтым лесе была вялікая патрэба з боку нашай прамысловасьці, якая тады толькі пачынала ажываць. Зацьверджаньне Саветам Народных Камісараў Беларусі існаваньня ахоўніку—крок, які мае выключную культурную вагу і лішні раз падчырквае ўважныя адносіны ня толькі да прыродных багацьцяў краю, але і да пытаньняў чыста навуковага і этычнага парадку. Ахоўнік, які існуе ўжо тры гады, нажаль так мала папулярызаваны сярод шырокіх пластоў насельніцтва, што аб ім мала хто і чуў нават. Тымчасам, гэта цікаўная ўстанова, для нас даволі новая, заслугоўвае на вялікую грамадзкую ўвагу, як вялізны нацыянальны парк, пакуль адзіны ў рэспубліцы, і як месца, дзе захавалася адна з найвялікшых сучасных колёній усюды ўжо вынішчанага бабра і другіх каштоўных жывёлін [1]).

Ахоўнік быў створаны ў выглядзе паляўнічага рэзэрвату «з мэтаю аховы і размнажэньня каштоўных дзікіх жывёл і пярнатай дзічы, асабліва рачных баброў». (Паст. Сав. Нар. Камісараў Беларусі ад 30.І.1925 г.). Але нават як «паляўнічы ахоўнік», ён мае вялізнае значэньне, як мера па ахове прыроды, вядучы да ўсіленага размнажэньня дзічы і расьсяленьня яе адгэтуль у наваколічныя паляўнічыя ўжыткоўнасьці. Удала выбранае месца Ахоўніка ў сэнсе фізычных умоваў для жыцьця рознастайных парод дзічы, вялізная плошча, якая забясьпечвае для дзічы дастатачны корм і пэўную волю, неабходную для памыснага размнажэньня, павінны даць у бліжэйшы час значнае павялічэньне зьнікаючых парод зьвярыны, як лось, куніца, бабёр, казуля, дзік ды інш., што засталіся ў невялікім ліку ў гэтым адзіным кутку Беларусі.

Але найбольшае значэньне, асабліва з навуковага погляду, мае ахоўнік дзякуючы тэй значнай колёніі баброў, якая ў ім захавалася. Пасьля разгрому славутай Белавескай Пушчы [2]), дзе зьберагаўся каштоўны рэлікт прыроды—зубар, наш Ахоўнік, які зьмяшчае най-

---

[1]) Варта скарыстаць выпадак, каб сказаць некалькі слоў аб Беларускім бабровым Ахоўніку, які набыў цяпер не павятовае значэньне, як гэта, нажаль, пакуль-што ёсьць, а бяспрэчна ўсесаюзнае, альбо нават і большае. Эўропэйскі бабёр захаваўся ў нас у найбольшым ліку і мы маглі-б паставіць сабе гэта ў заслугу. Захаваньне бабра ў такой меры як у нас, не ўдалося нідзе ў іншым месцы, лічачы тут усе эўропэйскія краіны, дзе бабёр быў і зьнік, альбо блізкі да гэтага.

[2]) Гл. аб гэтым: „Białowies in Deutschr Verwaltung“ 1918 Berlin.

большую колёнію баброў ва ўсёй Палеарктыцы [1]), набывае вялізнае значэньне, ужо зусім не мясцовага, краёвага характару. На апошнім Міжнародным Конгрэсе па пытаньнях аховы прыроды ў 1913 г. у г. Берне, бабёр зьяўляўся тэмаю дакладу францускага прафэсара Пэр'е.

Апроч бабра тут ахоўваюцца ўсе іншыя зьвяры і птушкі з выняткам некаторых мясажораў, як рыся, воўка, ястрабаў, куратніка і карагольчыка. З тых відаў, якія маюць паляўнічае і прамысловае значэньне, у Ахоўніку захаваліся наступныя:

1. *Мядзьведзь* (Ursus arctos L.) — сустракаецца па ўсёй тэрыторыі Ахоўніка, асабліва ў вурочышчах каля Валовай-Гары.

2. *Воўк* (Canis lupus L.). Распаўсюджаны, нажаль, па ўсёй тэрыторыі ня толькі Ахоўніка, але і ўсяе Рэспублікі, у колькасьці, якая пагражае дабрабыту сялянскае гаспадаркі, і, нават, жыцьцю людзей. Трэба адзначыць нядбайнасьць да воўка і ў Ахоўніку і па ўсёй Беларусі.

3. *Ліс* (Vulpes vulpes L.). Таксама як і воўк, шырока і ў вялікім ліку распаўсюджаны ў Ахоўніку.

4. *Рысь* (Felis lynx L.). Дагэтуль яшчэ сустракаецца ў Ахоўніку, ня гледзячы, што ўжо некалькі штук яго там забіты.

5. *Куніца звычайная* (Martes martes L.). Сустракаецца мала ў шмат якіх дачах Ахоўніка.

6. *Тхор-шашок.* (Putorius putorius L.). На ўсёй тэрыторыі Ахоўніка.

7. *Гарнастай.* (Mustela erminea L.). Таксама як і тхор; даволі звычайны.

8. *Ласка* (Mustela nivalis L.). Звычайна па усёй тэрыторыі Ахоўніка.

9. *Норыца* (Lutreola lutreola L.). Дзякуючы значнаму ліку лясных рэчак і вазёр, распаўсюджана амаль ва ўсіх дачах Ахоўніка.

10. *Выдра* (Lutra lutra L.). Таксама як і норыца.

11. *Барсук* (Meles meles L.). Параўнальна рэдка, але ў раёне Валовае-Гары норы можна спаткаць у некалькіх месцах.

12. *Белка (ваверка)* (Sciurus vulgaris L.). Распаўсюджана па ўсіх сухіх вучастках Ахоўніка.

13. *Заяц шэрак* (Lepus europaeus Pall.). Звычайны насельнік ўсіх дач Ахоўніка.

14. *Заяц бяляк.* (Lepus timidus L.). У лясных вурочышчах нават у большым ліку, чым шэрак.

15. *Бабёр звычайны* (Castor fiber L.). Гл. мае вышэйпамянёныя артыкулы.

16. *Дзік* (Sus scrofa L.). Вельмі рэдка асобнымі экзэмплярамі. Да часу вынішчэньня ваўкоў—трудна чакаць адраджэньня.

17. *Лось* (Alces machilis Ogilby.). Моцна вынішчаны і сустракаецца спорадычна. Галоўную шкоду цяпер робяць *ваўкі.* Але вельмі добрыя ўмовы пажывы—збытак маладнякоў багацьце лотаці (Caltha palustris) на прырэчных лугох і даволі вялікі суцэльны лясны масыў, пры суровай ахове, бязумоўна дазволіць ласю размножыцца, калі павесьці рашучую барацьбу з ваўкамі, асабліва небясьпечнымі для цялят, якія у канцы жніўня на час паркаваньня пакідаюць маткі.

18. *Казуля* (Capreolus capreolus L.). З другіх аленяў у Ахоўніку сустракаецца толькі казуля і пры тым у колькасьці, якая ўпэўнена

[1]) *А. В. Федюшин.* „О современном распространении бобра в Белоруссии". Труды II Всесоюзного С'езда Зоологов, 1925 г. Москва, „Бюлл. Моск. О-ва Испыт. Природы. 1926. Отд. Зоологич."

забясьпечвае далейшае размнажэньне, але ізноў-жа пры ўмове рашучага змаганьня з ваўкамі.

Што датычыць паляўнічай фаўны птушак, дык найболей каштоўныя віды ў Ахоўніку гэта глушэц, арабок, цецярук і пардва. Амаль што ў цэнтры Ахоўніка цягнецца вялікі імшар, каля 10 вёрст у даўжыню і да 5 вёрст шырыні, ў вадным кавалку, з невялікімі астраўкамі-грывамі парослымі хвояй. Пачынаючы ад р. Вялікай праз воз. Пастрэжае на захад ад Бярэзінскага каналу, і даходзячы да воз. Домжарыцы на поўнач, балота гэтае, скрозь пакрытае дробнаю хвойкаю, бярозкамі, зарасьнікамі багуну, чарніцы і журавіны, дае прытулак вялізнай колькасьці пардвы, мноству цецярукоў, глушцоў, вялікаму кулёну, жураўлю. Пара гагар-нырцоў (Colymbus arcticus L.) якая штогодна гнезьдзіцца на воз. Пастрэжым, зьяўляецца найлепшым доказам маладаступнасьці месца. Багацьце водных прастораў як воз. Пелік, Домжарыцкае, Манец, Плаўе ды інш., рака Бяроза і яе прытокі (Пяшчанка, Гурбянка, Мрай, Жортайка і г. д.), канавы з нізкімі, амаль заўсёды залітымі берагамі, парослымі лазою і трысьцём,—абумоўліваюць збытак качак, галоўным чынам крыжанкі і двух відаў чыркі. Апроч таго ўлетку тут гняздуюцца лапаноска, чэрні, нырчыккавур. Увосень і весну на вазёрах зьяўляюцца шмат пралётных відаў гусей, зрэдка лебядзей, пры чым спасярод апошніх на воз. Пелік была дабыта, ўпяршыню адзначаная для Беларусі, малая лебедзь (Cygnus bewicki). Тут таксама спыняюцца чароды ныркоў, крохаляў, некалькі відаў чаек, з якіх, ізноў-жа, ўпяршыню для Беларусі, была дабыта на воз. Пелік ружовая чайка (Larus gelastes), што выпадкова была заляцела да нас з паўднёвых мораў. Тут-жа ў Ахоўніку ёсьць і месцы зімовак крыжанак.

Калі дадаць да гэтага збытак драпежных птушак, дзякуючы выгодным умовам гнездаваньня (недаступныя астравы на балотах, рэдка наведваныя вучасткі лесу), і, ведама, поўную рознастайнасьць дробных, непаляўнічых відаў пявуноў, якія насяляюць усе куткі Ахоўніка—атрымоўваецца ўцешны малюнак паўнаты птушынага насельніцтва. А гэта цяпер, калі чалавек з яго культурнымі і некультурнымі спосабамі ў адносінах да абкружаючай прыроды ўкараняецца ўсюды, нават у самыя глухія куткі,—спатыкаецца рэдка. Злучэньне амаль усіх тыповых для краю біолёгічных станцый ў вадным, праўда вялікім, масыве найлепш запэўнівае посьпех ідэі Ахоўніку з аднаго боку як помніка прыроды, а з другога—як натуральнага разсадніка найболей каштоўных парод дзічы і пушной зьвярыны.

Такім чынам, існаваньне Ахоўніку як-раз адказвае на інтарэсы паляўніцтва і аховы прыроды ў адзін і той самы час. Трэба думаць, што іншыя адносіны паміж паляўніцтвам і аховай прыроды цяпер ужо будуць немагчымы, і што пільнуючы інтарэсы першага, мы ніколі ня будзем іх супроцьставіць да інтарэсаў болей агульнага характару—прыродазахаваўчых. Кажучы аб ахове прыроды, мы, зразумела, маем на ўвазе ня толькі фаўну, але ўсе прыродныя ўмовы данай мясцовасьці суцэльна.

З гэтага пагляду, на моцы паданых ужо вышэй гістарычных прычын і пад уплывам шпарка ўзрастаючай земляробскай культуры, — трэба пасьпець захаваць ад безпаваротнай загубы найболей тыповыя, кваліфікуючыя рысы твару нашай тэрыторыі. Зрабіць гэта вымагаюць інтарэсы навукі і будучых пакаленьняў, што з удзяч-

насьцю прымуць руплівасьць сучасьнікаў да зьберажэньня помнікаў дзікай прыроды, сярод якой іх продкам прыходзілася весьці змаганьне за ўласнае існаваньне і лепшую будучыну патомкаў.

Для Беларусі раней ці пазьней паўстае пытаньне аб ахове, напрыклад, кавалачка Палескага краявіду—пескавых выдмаў (дюн), хваёвых бароў, балот, асобных вучасткаў суцэльных дубовых лясоў, нават асобных расьлін, дужа цікавых рэліктаў—яшчэ жывых, пакуль што, сьведкаў даўно мінулых геолёгічных момантаў у гісторыі нашага краю, і гэтак каштоўных для інтарэсаў навукі.

Пры шыбкім узросьце культурнасьці сярод масы насельніцтва, дзякуючы абавязковаму ўжо ў некаторых месцах, навучаньню, трэба спадзявацца, што пропаганда ідэй аб ахове прыроды знойдзе, урэшце, і ў нас адпаведную глебу.

Праф. **А. Фядзюшын.**

---

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 93. Ці пашыраецца арт. 2 цыркуляра Народнага Камісарыяту Земляробства ад 5 сакавіка 1927 г. № 16 (аб прыпыненьні да зямляўпараукаваньня адабраньня лішку зямлі з карыстаньня празпалосных гаспадарак) на справы якія падрыхтаваны да 5 сакавіка 1927 г. а таксама ці не адпадае неабходнасьць перакладаньня па гэтых справах праэктаў якія былі складзены ў мінулыя гады, але потым былі адменены зямельнымі камісіямі дзеля перакладаньня. (Бабруйская акрземкамісія).

Адказ. На падставе арт. 2 цыркуляра Народнага Камісарыяту Земляробства ад 5 сакавіка 1927 г. № 16 адабраньне лішкаў (больш нормы) ад праспалосных гаспадарак можа уперад рабіцца толькі пры ўнутрывясковым земляўпарадкаваньні. Дзеля гэтага падлягаюць спыненьню ўсе земляўпарадкаўчыя справы, па якіх праэкт адабраньня лішкаў зямлі з карыстаньня праспалосных гаспадарак яшчэ не зацьверджан акруговаю зямельнаю камісіяй. Выкананьне-ж зацьверджаных праэктаў па азначаных справах прыпыняецца да ўнутрывясковага земляўпарадкаваньня.

Пытаньне 94. У Райвыканком паступаюць падпіскі грамадзян аб адмове ад карыстаньня часткай зямлі. Хадайніцтвы гэтыя падаюцца каб пазбавіцца ад сельхозналогу. Якія фармальнасьці трэба захоўваць пры залічэньні ў гэтых выпадках земля ў запасны фонд. (Лоеўскі Райвыканком).

Адказ. Артыкулы 9, 18 і 19 зямельнага кодэксу вызначяюць права, а не абавязак працоўнага карыстаньня зямлёю дзеля вядзеньня гаспадаркі. З гэтае прычыны землякарыстацель заўсёды можа адмовіцца ад ўсей альбо часткі зямлі, якая знаходзіцца ў яго карыстаньні. Адмова працоўнае земляробскае гаспадаркі ад зямлі, якая ажыцьцяўляецца праз падачу ў мясцовы па знахаджэньні гэтае зямлі сельскі савет адпаведнай заявы, падпісанай усімі поўнапраўнымі членамі двара (арт. 46 зям код.). Па сутнасьці заявы сельскі савет робіць у падворным сьпісу адзнаку аб зьмене ў землякарыстаньні двара (пры адмове яго ад часткі зямлі) альбо аб выключэньні са сьпісу двароў (пры адмове яго ад усёй зямлі) і передае потым паступіўшую ў запасны фонд зямлю патрабуючым яе ґаспадаркам у парадку чаргі вызначанай артыкулам 10 зям. кодэксу.

---

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ

## Аб уплыве павярхоўнага ўгнаеньня на ураджайнасьць штучнай сенажаці.

Штучна заложаная на балоце шматгадовая сенажаць у далейшым дзеля захаваньня сваёй ураджайнасьці патрабуе пэўнага за сабою догляду, і сярод паасобных прыёмаў догляду першае месца займае мінэральнае ўгнаеньне. У сувязі з рознымі спосабамі залужэньня зьяўляецца важным вызначыць, з якога моманту належыць уносіць ўгнаеньне, а потым, якое ўгнаеньне і яго нормы. Дзеля паверкі гэтага запытаньня балотнай гаспадаркай быў узяты вучастак сенажаці плошчай у $^1/_4$ дзесяціны. Сенажаць гэта заложана ў 1926 г., з вясны пры пасеве аўса па каліфосфатнаму ўгнаеньню (15 пуд. калійнай солі+15 пуд. тамасаўкі); мешаніна траў складалася з канюшыны, цімафейкі, купкоўкі і мурожніцы і высеяна ў колькасьці $2^1/_2$ пуд. на дзес.

15-га ліпеня 1926 году, прыкрываючы авёс з прычыны значнай засьмечанасьці, быў скошан на корм; у верасьні таксама была скошана атава, якая дала ў пераліку на дзес. 135 пуд. сухога сена.

Такім чынам, у год пасеву мешаніны па ўгнаеньню было прыбрана: ўкос аўса на корм і укос атавы.

Вясною наступнага году (1927 г.) названая плошча сенажаці ў $^1/_4$ дзес. была разьбіта і ўгноена згодна схэмы вопыта. У пачатку чэрвеня ў раёне прайшлі нябывалыя ліўні. Плошча сенажаці два разы была цалкам пад вадой, якая заставалася на паверхні 2 дні. Па спаду вады, у першы час узровень грунтовай вады паніжаўся паступова і канчаткова выраўняўся толькі к канцу ліпеня. Тым ня менш у пачатку ліпеня зроблен быў першы ўкос, а ў верасьні—другі. Прыбраная і падлічаная маса па сводцы лічбавога матэрыялу ў табліцу дае наступнае:

| №№ | Назва вопыта | Ураджай сена ў пуд. на дзес. | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Першы ўкос | Другі | Усяго за 2 ўкосы | У % |
| 1 | Унесена вясною 1927 г. кал. солі 6 пуд. на дзес. . | 225 | 156 | 381 | 160 |
| 2 | Унесена вясною 1927 г. кал. солі 9 пуд. на дзес. . | 229 | 160 | 389 | 163 |
| 3 | Унесена вясною 1927 г. кал. солі 12 пуд. на дзес. . | 225 | 172 | 397 | 166 |
| 4 | Унесена вясною 1927 г. адначасна калійнай солі 12 п. +тамас. 18 пуд . . | 228 | 168 | 396 | 166 |
| 5 | Унесена тамасаўкі 12 пуд. на дзес. . . . . | 160 | 79 | 239 | 100 |
| 6 | Вясною 1927 г. ўгнаеньня не давалася . . . . | 150 | 88 | 238 | 100 |

Лічбавы матэрыял табліцы даволі ясна адзначае ролю ўгнаеньня ўнесенага на другі год па залужэньні. Першы над усё досьлед паказвае, што тамасаўка (форсфарн. ўгнаеньне) ня мае ніякага ўплыву, бо такі самы ўраджай дае кантрольная дзялянка (без ўгнаеньня). Далей, пры ўнясеньні ўжо 6 пуд. калійнай солі (па разьліку на дзес.) павышалася маса сена за 2 ўкосы на 60 проц. Павялічэньне калійнай солі ад 6 да 12 пуд. павышае масу далей зусім мала (на 6 проц.) вызначаючы нярэнтабельнасьць ўнясеньня гэтых норм. Урэшце прыбаўка тамасаўкі да калійнай солі (фосфарн. калі) дае той-жа вынік, што адна калійная соль.

Такім чынам, зноў выяўляецца (гл. „Плуг“ №№ 3, 11 за 1926 г.) патрэбнасьць балотнай гаспадаркі ў адным толькі калі.

Напэўна запас фосфару ў самым тарфяніку значны, а запас калі абмежаваны і тарфянік патрабуе абавязковага папаўненьня калія па меры яго выкарыстаньня, як было ў гэтым досьледзе, пасьля здыманьня ўраджаю аўса і атавы першага году. Так у першы ўкос ўраджай, сена на ўгнаеньні калійнай сольлю вышэй на 50 проц., чым ўраджай, без ўгнаеньня, а ў другі ўкос ён вышэй ужо на 87 проц. Апрача таго пры адсутнасьці кал. солі (асабліва ў другі ўкос) ідзе хуткае прападаньне канюшыны.

Такім чынам зразумела, што павярхоўнае паляпшэньне аднэй калійнай сольлю нават у абмежаванай колькасьці (6-9 пуд. на дзес.) павінна быць ўнесена.

Падлік кошту прыбавачнага сена (143 пуд.+40 к.) і кошту патрэбнай калійнай солі (6-9 пуд. па 1 р. 10 к.), як ня трэба лепш паказвае выгадны бок досьледу.

З усяго паказанага можна зрабіць такія вынікі:

1) Заложаная з вясны штучная сенажаць на балоце пры скарыстаньні ў тым жа годзе гэтай расьліны на корм і атавы на сена, у наступным годзе гэта сенажаць патрабуе дадатковага павярхоўнага ўгнаеньня.

2) Нізавыя балоты, тыпа Лукоўскага масыву, патрабуюць пры гэтым павярхоўнага ўгнаеньня з аднэй калійнай солі ў ліку 6-9 пуд. на дзесяціну.

3) Адзначаная невялікая норма калія падвышае ўраджай у сярэднім на 50 проц. і з эканамічнага боку сябе апраўдвае.

**А. Шохар.**

---

## Гаспадарка селяніна Генрыха Фастэнау ў Нямеччыне.

*(У Майбушы, правінцыі Ольдэнбург. Па агляду яе ў сярэдзіне верасьня 1927 г.).*

Гаспадарка селяніна Генрыха Фастэнау знаходзіцца на асушаным махавым балоце „Майбуш“ на захад ад гораду Брэмену ў 2-3 кілёмэтрах ад чыгуначнай станцыі „Гудэ“ чыгункі Брэмен-Ольдэнбург.

Гаспадарка, якая стаіць каля самае шашы, пракладзенай па балоце яшчэ ў мінулым стагодзьдзі, прадстаўляе сабою хутар з агульнай плошчай 18 гэктар (16,5 дзесяцін). Уся плошча—балотная. Калісь-та, яшчэ пры дзядох сучаснага гаспадара, тут было дзікае балота укрытае белым мохам.

Асушка балота, на якім знаходзіцца гаспадарка, пачалася гадоў 70-80 таму назад. Спачатку былі прарыты за кошт дзяржавы галоўныя (магістральныя) канавы, пасьля чаго паасобныя гаспадары, якія атрымоўвалі адпаведны доўгатэрміновы крэдыт, прарылі бакавыя дробныя канаўкі ў мэтах далейшай культуры асушанага балота.

У сучасны момант усе 18 гэкт. балота селяніна Генрыха Фастэнау дэталёва асушаны, адчыненымі канавамі глыбінёй у сярэднім да 1 мэтру (1 арш. 6 в.) пры адлегласьці аднае канавы ад другое ў 8 мэтраў (трохі менш 4 сажняў). Такія частыя асушыцелі патрэбны на гэтым балоце з тае прычыны, што яно вельмі багата вадою. Але канаўкі зроблены невялікія—шырынёй ня больш 30-35 сантымэтраў (каля 1/2 арш.) з стромкімі бакамі, бо махавы торф добра трымаецца без пакатаў.

Свае 18 гэктар Фастэнау выкарыстоўвае гэтак: 7 гэктар знаходзяцца пад сталай пашай, 7 гэктар пад сенажацьцю, 3,5 гэктар пад ральлёю і 0,5 гэктара пад будынкамі, садам і гародам.

Як сталая паша, таксама і сенажаць зьяўляюцца штучнымі, гэта значыць, што травы пасеяны. Пры складаньні мешаніны траў селянін Фастэнау кіраваўся вопытамі Брэменскай балотнай станцыі, і парадамі спэцыялістага. Сталая паша існуе ўжо звыш 12 гадоў без падсеву траў, але пры штогоднім штучным угнаеньні, згодна выпрацаваных дзеля балот гэтага раёну норм (каля 4 пудоў калія і 2 пудоў фосфарнай кіслаты, г. з. каля 10 пудоў 40 проц. калійнай солі і 12 пудоў тамасаўкі.

На 3,5 гэктарах ральлі селянін Фастэнау сее авёс, жыта і бульбу. Авёс і жыта выкарыстоўвае ён ва ўласнай гаспадарцы, а бульбу штогодна прадае праз коопэрацыйную організацыю. Апрача гэтага, ён яшчэ разводзіць бручку на корм жывёле. Месца пад садам і гародам пакрыта слоем пяску, які навезен сучасным гаспадаром (насыпная культура Рымпау). На гародзе сеюцца патрэбныя ў гаспадарцы гародніны гуркі, бабы, фасолі, морква і г. д.

Ураджаі, па словам самога Фастэнау, у сярэднім такія: лугі даюць каля 5000 кілёграм сена (300 п. з гэктара), бульбы ён атрымоўвае 10—15. тыс. кілёграм (600—900 пудоў), жыта і аўса—па 2. тыс. кілёгр. (120 пуд.), бручкі—40—60 тыс. кілёграм. (2.400—3.600 пуд.) з гэктара.

Як відаць, уся гаспадарка пабудована так, каб магчыма было трымаць шмат жывёлы, значыць, гаспадарка мае жывёлагадоўчы ўхіл. Генрых Фастэнау мае ў сучасны момант 5 малочных кароў, 14 падцёлкаў, 15 сьвіней старых і маладых. Малако прадаецца ў горад праз малочную коопэрацыю. Штогодна з гаспадаркі прадаецца каля 10 падсьвінкаў і да 5—10-ці падцёлкаў.

Усю вясну, лета і восень да марозаў жывёла трымаецца на пашы дзень і ноч. Каровы тут-жа доюцца на пашы.

З рабочае жывёлы Фастэнау мае толькі аднаго каня і гэтага яму даволі, бо конь выкарыстоўваецца амаль што толькі ў палявых работах. Гэта магчыма таму, что кожны член сям'і мае па вэлёсыпэдў дзеля сваіх паездак, а малако, бульба і іншае забіраецца, галоўным чынам, аб'яжджаючымі ўсе гаспадаркі аўто-транспортам малочнай і іншых організацый.

Будынкаў у гаспадарцы Фастэнау—тры: адна пуня, адзін будынак дзеля жывёлы і уласнай кватэры. Пуня ўжо вельмі старая, хата і скотнік пабудаваны пару дзесяткаў гадоў таму назад. Усе будынкі агнятрывалыя. Скотны будынак мае шкляныя дзьверы проста ў ква-

тэру, але гэта ня шкодзіць чыстаце кватэры, бо самы скотнік утрымоўваецца вельмі чыста.

Кватэра мае 4 пакоі з вялікімі вокнамі і высокаю столью.

Дроў дзеля апалу ў гэтым раёне амаль што няма. Памяшканьне апальваецца торфам, які гатуецца кожным гаспадаром паасобку. У час агляду гаспадаркі, загатоўлены торф знаходзіўся на месцы выпрацоўкі ў невялікіх купках (штабелах). Выпрацоўка торфу вядзецца ручным способам (рэзаны торф).

Догляд за канавамі вядзе сельская ўлада. Па яе распараджэньні канавы прачышчаюцца абавязкова два разы ў год—пасьля праходу веснавах вод і позьняй восеньню. За гэтым канавы знаходзяцца ў нармальным становішчы і забясьпечваюць правільную работу ўсяе сыстэмы асушыцеляў.

Селянін Фастэнаў ніякіх сыстэматычных запісаў па гаспадарцы не вядзе, чаму цяжка выявіць, які прыбытак ён атрымоўвае з сваёй зямлі. Але па аглядзе ўсіх гаспадарчых будынкаў і інвэнтару, а таксама яго ўласнае кватэры відаць, што на жыцьцё яму з яго сям'ёй, якая складаецца з яго жонкі, 2-х дачок, упаўне хапае. Па яго словах, жыць і працаваць прыходзіцца цяжка, але жыве ён бязбедна.

Гаспадарку Фастэнау нельга прылічаць да найлепшых гаспадарак на Майбушскім махавым балоце. Гэта звычайная сярэдняя гаспадарка, але і яна вучыць нас таму, што на балоце магчыма добра з'арганізаваць гаспадарку і жыць ня горш, чым на мінэральнай глебе. Беларускім сялянам трэба яшчэ прыняць пад увагу, што нашы балоты ў большасьці нізінныя і больш багатыя пажыўнымі матэр'ямі, чым махавікі Нямеччыны, і таму нам, пры адпаведных працах па асушцы і культуры нашых балот, магчыма значна палепшыць сялянскае жыцьцё і паменшыць зямельную цеснату. **М. Лейвікаў.**

---

# С.-г. выстаўка ў Мсьціслаўскім раёне.

У «Дзень сьвята Ураджаю» 30-га кастрычніка ў двух вёсках нашага раёну адбыліся дзьве выстаўкі. Гэта першы вопыт дробнараённых выставак. Ня гледзячы на неспрыяючыя ўмовы, як дрэннае надвор'е, цеснае памяшканьне і інш., выстаўкі прашлі з вялікім уздымам. На выстаўках прысутнічалі прадстаўнікі ад пяці сельсаветаў лікам каля 700 ч., якія падрыхтавалі 296 экспонатаў. У пабудове выставак прымалі ўдзел ня толькі паасобныя гаспадаркі, але і цэлыя пасёлкі.

Выстаўкомы вырашылі прэміраваць больш выдатныя экспонаты часопісямі, газэтамі і с.-г. кніжкамі замест натуровых або грашовых прэмій; насельніцтва вельмі было здаволена гэтым. На адной выстаўцы ў вечары паказваліся сьветавыя малюнкі.

Урачыстая частка была скарыстана на абмен думкамі паміж удзельнікамі выставак. Выказаныя думкі падкрэсьлілі, што селянін пашоў на выстаўку, як у сапраўдную школу, каб навучыцца будаваць новае і лепшае жыцьцё. І праўда, было чаму навучыцца. Вось экспонаты паляводзтва з вынікамі розных сартоў збожжа, вялікія ўраджаі ільну і канопель, вось буракі, якімі можна пахваліцца нават перад замежнымі гаспадаркамі, дзічкі яблын, выгадаваныя сялянамі, якія ў зімовы час былі на с.-г. курсах.

Усім вядома, што на с-г. выстаўках удзельнічаюць пакуль што сяляне—перадавікі, піонэры новага жыцьця. Але-ж лік іх з кожным годам хутка пашыраецца. Райаграном **І. Крупень.**

(Мсьціслаў).

---




# Досьлед з капустаю.

Для досьледу я ўзяў два сарты капусты: «Первенец» (Глюнштадзкая)—раньні, скорасьпелы і Браўншвэйскую—позьні. Для высева насеньня я зрабіў парнік 22 лютага (парнік рабіў так, як апісана ў «Плугу» № 2, 1926 г. стар. 21), а каля 28 лютага пасеяў насеньне расады. Сеяў абодва сарты паасобку. У парніку расада хутка прарасла і, калі ўжо на ёй зьяўляўся трэці лісток, я перасадзіў яе ў свабоднае месца парніка на адлегласьці 1 кв. вярш. каліва ад каліва. Расада ў парніку расла вельмі добра і 20-га мая яе пасадзілі ў грады, якія былі падрыхтованы і ўгноены аднолькава, як пад скорасьпелую, так і пад позьнюю. Угнаеньне было такое: на 60 кв. саж. палажылі гною 45 пуд., вапны 10 фун. і салетры 3 фун. (у пераводзе на дзес. 1.800 п. гною 10 п. вапны і 3 п. салетры). Гной клалі, добра перапрэўшы, перад узорваньнем вясною 9 мая, у той-жа дзень і зааралі. Вапну сеялі перад пасадкаю капусты, а салетру перад 1 і 2 матыкаваньнем у чэрвені м-цы. Садзілі адну палову капусты на градах, а другую бяз град у рады.


Белакачанная капуста.

Вынікі былі такія: капуста скорасьпелая да ліпеня была ўжо ў галоўках і важыла кожная галоўка ад 2 да $2\frac{1}{2}$ клгр., а Браўншвэйская позьняя яшчэ толькі пачынала завівацца ў галоўкі. У ліпені на капусту напалі вусьні-бялянкі; яны вельмі пашкодзілі позьнюю капусту і не далі ёй завіць галовак, хаця пашкодзілі і скорасьпелую, але не ў такім разьмеры (у гэтым годзе ў нашым раёне было вельмі шмат вусьняў і ў другіх сялян).

У час прыборкі з 15 кв. саж. пасаджаная ў рады раньняя капуста дала 12 п., а 15 кв. саж. позьняй—5 п. чыстых галовак. З град сабралі з тэй-жа плошчы раньняй 9 п., а позьняй 3 п., што ў пераводзе на дзес. дае: з радоў раньняй—1920 п. і позьняй—800 п., а з град 1440 п. раньняй і 480 п. позьняй. Глеба і падглеба пад капустаю была аднолькавая, пясчаная.

Прадаючы пуд капусты па 50 кап., дзесяціна раньняй капусты пры пасадцы ў рады дала-б 960 руб., а чыстага даходу было-б 895 руб. (адлічыўшы 65 руб. на ўгнаеньне). Позьняя капуста чыстага даходу дала-б 335 р. У градах раньняя капуста дала-б 655 руб., а позьняя 175 руб. чыстага даходу з дзес.

Вось мой вывад. Капусту на пескавых глебах трэба садзіць ня ў грады, а ў рады; сорт браць Браўншвэйнскі або раньні «Первенец». За раньнюю капусту можна добрыя грошы ўзяць улетку, жывучы каля мястэчка (мы прадавалі яе па 6—8 кап. фунт). У каго няма блізка рынку збыту, дык раньнюю капусту трэба садзіць толькі для свае патрэбы, а таксама садзіць і позьнюю для складаньня на зіму.

Насеньне раньняй капусты можна выпісаць з Растова на Дану (Крайсеменоводсоюз, ул. Фр. Энгельса, д. № 35). Цану можна ўзнаць выпісаўшы прэйскурант.

Сел.-дасьл. **А. Карнейчык.**

(Х. Сарачынава, Менск. акр.).

---

## Ураджай пшаніцы 120 пуд. з дзесяціны.

У 1926 годзе я атрымаў ад рэдакцыі часопісі «Плуг» 100 грам пшаніцы-зімкі сорт Высокалітоўскі і пасеяў такім спосабам, як было прапанована. Праўда, пасеяў трохі пазьней, чым трэба было (9-га верасьня).

Пасеяў на супяшчанай глебе, зьняўшы кармовыя буракі, якія былі пасеяны па поўнаму навознаму ўгнаеньню; пад пшаніцу яшчэ паклаў гной па разьліку на дзес. 720 пуд., а на 5 к. м. 15 фун. Узышла пшаніца хутка і роўнамерна. Вясной ручнымі граблямі я яе паскародзіў і як стала пшаніца высыпаць, павырываў у ёй каласы з сажай, а іх было 18 штук. Далей да самай прыборкі ніякага догляду за ёй не рабіў з той мэтай, каб даведацца аб яе ўраджайнасьці пры самым звычайным доглядзе.

22-га жніўня пшаніцу прыбраў; харашэнька яе на сонцы высушыў, абмалаціў і зважыў. Аказалася, што зярна вышла 1 кілё (2½ ф.) і саломы 1 кілё 800 гр. (4½ фун.). Трэба адзначыць, што празмерная вільгаць (частыя дажджы) ня спрыялі росту пшаніцы. Потым пшаніцу я пратруціў формалінам і 6 верасьня 1927 г. ізноў пасеяў, але пасеяў ужо 50 кв. мэт. Аб выніках ураджаю напішу праз год.

Прашу т. т. сялян і, наогул, дасьледчыкаў таксама напісаць на старонках нашай часопісі аб выніках пасеву пшаніцы, атрыманай ад «Плуга». Вельмі пажадана ведаць, на якой глебе была пасеяна пшаніца, па якому ўгнаеньню, што было пасеена ў папярэднім годзе, точны вучот зярна і саломы. Пішэце і аб дрэнных выніках, бо ад гэтага залежыць далейшае пашырэньне гэтай пшаніцы [1]).

Сел. **Янка Судак.**

---

## Сажа на палёх Горацкага раёну.

Напэўна кожнаму хлеbabробу вядома хвароба палявых расьлін—жыта, аўса, пшаніцы і проса. Зьяўляецца яна ў тым, што замест зярнят у коласе аказваецца чорны пыл. Назва гэтай хваробы—галаўня або сажа.

Хвароба выклікаецца невялічкім грыбком, які можна бачыць толькі пасьля групаваньня ў кучу. Калі трэба разглядзець яго падрабязна, дык прымяняюць дзеля гэтага прыбор так званы мікраскоп.

---

[1]) Сел. П. Трапашка аб сваіх выніках пісаў у „Плугу“ № 10 1927 г. *(Рэд.)*.

На коласе бываюць мільёны зароднікаў (спор) грыбка, а адзін зароднік пры добрых умовах заражае расьліну. Праз гэта сажа вельмі заразьлівая хвароба і, зьявіўшыся на полі, ня гніе сама па сабе, а наадварот з кожным годам павялічваецца пакуль чалавек ня возьмецца за барацьбу з ёю. Сустракаецца яна ўсюды, дзе сеюцца збожжавыя расьліны. У спрыяючых умовах дзеля разьвіцьця хваробы сажа зьні-




1. Цьвярдая галаўня ячменю. 2 .Пылавая галоўня аўса. 3. Мокрая ці сьмярдзючая галоўня пшаніцы.

шчае да паловы і болей ураджаю. У Паўночных Штатах Амэрыкі падлічана, што праз сажу траціцца каля 700 мільёнаў пуд. зярна ў адзін год. У Нямеччыне паражэньне мокраю або сьмярдзючаю сажай у 1916—1917 г. было да 30 проц., а ў іншых мясцох даходзіла да 50%.

Апошняя лічба зьяўляецца звычайнай і для Савецкага Саюзу. Туркестанская Энтомолёгічная станцыя дае лічбу паражэньня пшаніцы цьвярдою сажай да 70 проц. Такіх лічбаў можна было-б дадаць шмат. Шкода толькі, што ў нас на Беларусі пытаньнем падлічэньня ўрону ўраджаю ад сажы ніхто не займаўся. Але вышэй адзначаныя прыклады ясна паказваюць, на колькі важна гэта пытаньне для гаспа-

дара-селяніна і агранома, каб з наліччам паражэньня і ўрону прымаць тыя ці іншыя спосабы барацьбы.

Дзеля вырашэньня пытаньня, які ўрон прыносіць сажа сялянскай і ўсёй народнай гаспадарцы ва ўмовах Беларусі, я ўлетку 1927 г. узяўся за выяўленьне гэтага пытаньня ў Горацкім р. Мною было ўзята дзеля дасьледваньня 10 пунктаў (вёскі Іваноў, Пііпава, Сенькава, Мацюты, Шарыпы, Прыдарожжа, Шышава, Стан; хутар Глінава і вёска Глінава). Падлік сажы робіцца проста; часта сажаю паражаецца ўвесь колас, а праз гэта па ліку хворых сьцяблоў можна меркаваць аб зьнішчэньні ўраджаю ў процантах. Напрыклад, на квадратовым мэтры знаходзіцца 100 расьлін, а хворых з іх 20, дык і процант урону будзе 20.

У кожным пункту мною бралася 10 розных палос, а на кожнай паласе па 20 мэтраў. Па падліку аказалася, што хвароба мела такое пашырэньне—Пшаніца: цьвярдая або сьмярдзючая сажа (Tilletia Tritici) ад 7 да 12 проц., сярэдняе па раёну—10 проц. Пылявая сажа пшаніцы Ustilago Tritici ад 1 да 3 проц., сярэдн. 2,5 проц. Усяго па раёну паражана пшаніцы (10+2,5) на 12,5 проц.

Зьнішчэньне ўраджаю ад сажы на дзесяціну будзе 8 пуд., прымаючы ўраджай ў 65 пуд. Усяго па раёну ўбытак на пшаніцы складзе—2344 д. па 8 пуд.-19.152 пуд.

Ячмень: цьвярдая сажа ячменю (Ustilago Hordei) ад 4 да 9%, сярэдн. 8 проц. Пылавая сажа ячменю (Ustilago nuda) ад 1 да 2,5%, сярэдн. 2 проц. Усяго па раёну 10 проц. Штогодна сярэдні ўбытак ад сажы з дзес. ячменю—4,5 пуд., калі сярэдн. ураджай лічыць у 45 пуд. Па раёну лічыцца 2030 дзес. ячменю. Урону будзе (4,5 п. × 2030) 9135 пуд.

Авёс: цьвярдая сажа аўса (Ustilago buis) ад 4 да 10 проц., сярэдн.—8 проц. Пылавая сажа аўса (Ustilago avenae) ад 9 да 14 проц., сярэдн.—12 проц.; усяго па раёну 20 проц. Калі ўраджай з дзес. лічым у 55 пуд., дык урон будзе 11 п., а па раёну 5890 дзес. × 11 = 64,790 пуд.

Жыта: Сьцяблавая сажа (Urocystis occulta) 0,5 проц.

Проса. Пылавая сажа (Ustilago Panici millacea) 10 проц.

Усё разам гэта дае вялікую лічбу зьнішчэньня ўраджаю—93.077 п. толькі пшаніцы, ячменю і аўса, ня прымаючы пад увагу жыта і проса. Гэта аграмадны ўрон для раёну, а асабліва цяпер, пры будаваньні соцыялізму, калі кожная капейка павінна быць улічана.

Між тым барацьба з сажаю мажліва амаль на ўсе 100 проц., а іменна пратручваньне фармалінам, фунтам якога можна пратруціць насеньня на 8 дзес., а каштуе фунт фармаліну ўсяго 50 кап.

Як весьці барацьбу з сажаю, можна даведацца ад мясцовага раённага агранома.

**М. Дарожкін.**

**(г. Горкі, Акадэмія).**




## Пашырайце скарыстаньне макухі.

Макуха вельмі цікавы корм. Яна зьяўляецца адкідам ў маслабойнай (алейнай) вытворчасьці. Макуха—найлепшы спажыўны корм, які мае прызнаную гаспадарчую каштоўнасьць.

У сваім разьвіцьці беларуская малочная гаспадарка робіць усе захады, каб у кожную, здольную малако даваць на рынак, сялянскую гаспадарку ўвесьці гэты корм, зрабіць яго там неабходным, бо ў спажыўным корме зацікаўлена ўся наша жывёлагадоўля.

Макуха каштоўна бялком, колькасьць якога дасягае да 20-30 проц. Бялок патрэбны для вытварэньня тварагу ў малаку, мяса, разьвіцьця і дзейнасьці жывёлы. Самым дзяшовым і лёгка здабываемым бялком і зьяўляецца бялок макухі. Дзеля атрыманьня вялікіх удояў і зьніжэньня сабекошту малака неабходна нашым гаспадаркам выкарыстоўваць гэты корм. Карова з удоем у 100 пуд. малака выдзяляе ў год каля 4 пуд. бялку, які завецца тварагом. Саломаю і сенам гэтую патрэбу здаволіць немагчыма.

Можна лёгка падлічыць растучую патрэбнасьць у макусе для нашай малочнай гаспадаркі і нашай жывёлагадоўлі.

Мясцовая вытворчасьць ільнянай макухі расьце слабей, чым гэтыя патрэбы; праз гэта частку макухі пакуль што трэба будзе прывозіць. Наша малочная гаспадарка ня дае на замежны рынак пакуль што нічога ў выніку нізкай якасьці сваёй вытворчасьці. Папаўняць нашы патрэбы магчыма ўвозам макухі з Паўднёвай часткі СССР, дзе культура масьляных расьлін і маслабойная прамысловасьць вялікія, і дзе асабліва распаўсюджан сланэчнік.

З гэтай прычыны ў штогодняе снабжэньне БССР макухай будзе ўваходзіць сланэчнікавая макуха. У наступным годзе разам з разьмеркаваньнем 300.000 пуд. ільняной макухі ўвозіцца 450.000 пуд. сланэчнікавай макухі.

Каб сяляне-жывёлаводы і пастаўшчыкі малака коопэраваных масла-сыр заводаў больш і больш уцягваліся ў выкарыстоўваньне макухі, трэба не аслабляць прапаганды спажыўнага корму. Асабліва патрабуе прапаганды макуха сланэчніка, вельмі мала вядомая ў нас.

Трэба гаварыць, што пры зацьверджанай Урадам цане ў 45 кап. пуд на месцы, макуха сланэчніка будзе больш выгадна, чым ільняная. Спажыўнасьць макухі сланэчніка, у выніку крыху большага ўтрыманьня лузгі (клетчаткі), меншая за спажыўнасьць ільняной, але макуха сланэчніка ўтрымлівае больш бялку, дык можна лічыць спажыўнасьць гэтых макух аднолькавай. Праўда, гэта гаворыць толькі аб той сланэчнікавай макусе, якая дастаўлена ў БССР урадавымі ўстановамі з дзяржаўных (не прыватных саматужных) заводаў, бо яна мае пэўны склад і не павінна мець больш 15 проц. лузгі. Саматужная сланэчніковая макуха можа мець значна больш % лузгі і праз гэта менш спажыўная.

Слачэчнікавая макуха цьвярдзейшая за ільняную і вымагае большага драбленьня на жмыхадрабілцы ці сякерай і мацнейшага распарваньня. Праз сваю цьвёрдасьць яна лепш перахоўваецца, але ўсё-ж такі патрабуе сухога месца для хаваньня і ня шчыльнага складаньня.

З асаблівасьцямі сланэчнікавай макухі трэба азнаёміць пакупцоў. Нашы заотэхнікі, аграномы і коопэратары павінны раіць яе. У гэтых мэтах павінна быць выкарыстана паказальнае кармленьне, а таксама лекцыі і курсы. Вопыты вучэбных фэрм, дасьледчых станцый, саўхозаў і перадавых сялян павінны накапліваць свае назіраньні і першыя практычныя прыклады, каб сланэчнікавая макуха хутчэй пранікла ў сялянскія гаспадаркі.

Пуд сланэчнікавай макухі па спажыўнасьці можа замяніць 4 пуды сена, 5-6 пуд. саломы, 5-6 пуд. бульбы ці 10-12 пуд. коранярлодаў, а з пуда макухі можна вытварыць 3-4 пуды малака. Калі перавесьці гэта па рыначнай цане на грошы, дык можна лёгка праканацца ў неабходнасьці прызнаць за сланэчнікавай макухай новую крыніцу спажыўных і дзяшовых кармоў, на падставе якіх толькі і можа разьвівацца наша малочная гаспадарка і жывёлагадоўля.

П. Л.

---

# Выстаўкі-вывадкі маладняка чырвона-беларускага быдла.

(*Пры кантрольных саюзах Самахвалавіцкага раёну*).

Для выясьненьня, які посьпех мае сярод насельніцтва праца па жывёлагадоўлі, аграномамі Самахвалавіцкага раёну пры кантрольных саюзах былі наладжаны дзьве выстаўкі-вывадкі маладняка чырв.-бел. быдла. Па тых экспонатах, якія былі прадстаўлены, гэтыя выстаўкі—вывадкі розьняцца адна ад другой. Так экспонаты, прывезеныя на вывадку 14-га жніўня ў саўхоз Анопаль пры Крупіцка-Стаўбуноўскім кантрольным саюзе, паказалі вялікую зацікаўленасьць ваколічнага насельніцтва да гадаваньня маладняка. Маладняк на гатай выстаўцы быў сыты, меў добрую вагу для свайго ўзросту і чыста дагледжаны.

Зусім іншае мы бачым на выстаўцы, праведзенай 21-га жніўня пры Кацягскім кантрольным саюзе ў племхозе Калініна. Большасьць маладняка быдла мела ня зусім добры выгляд як па сваёй чыстаце, так і па ўпітанасьці цела. Некаторыя жывёлы былі сапсаваны няправільным кармленьнем, бо недарослым да 3-х месяцаў цялятам давалі грубы корм. Гэты маладняк меў малую жывую вагу, правісласьць сьпіны і шмат іншых заганаў. Толькі некаторая з выстаўленай жывёлы была добра ўзгадавана.

На выстаўку-вывадку маладняка пры Крупіцка-Стаўбуноўскім кантрольным саюзе было дастаўлена 41 экспонат (12 бычкоў і 29 цялушак). З іх 19 экспонатаў належала сялянству, якое не ўваходзіла ў коопэрацыйныя аб'яднаньні, і 27 экспонатаў належыла сялянству, якое ўваходзіла ў кантрольны саюз.

Экспэртная камісія, у склад якой увайшлі спэцыялістыя па жывёлагадоўлі, прадстаўнікі ад сялянства і ад улады, выдала 15 матэрыяльных і 5 ганаровых прэмій.

1) Першую прэмію за добры догляд бычка, стаяўшага на кон курсе ўзгадоўлі палучыў Войцік Піліп Мікалаевіч, селянін з вёскі Кру

піца, Крупіцкага с.-с. у разьмеры 45 руб. і дыплём 1 ступені. Ён выставіў групу маладняка, якая склалася з 4 галоў.

Другую прэмію палучыў: Вайтовіч Васіль Аляксандравіч, селянін з вёскі Прылучкі, Падгайскага с.-с. за бычка. Трэцюю прэмію за добрую цялушку палучыў Бортнік А. А., селянін вёскі Крупіца, Крупіцкага с-с.; прэмія—барана Зіг-Заг 2-х зьвенная.

На гэтай выстаўцы перабыло каля 500 цікавіўшыхся сялян.

2) На выстаўку-вывадку маладняка пры Кацягскім кантрольным саюзе было дастаўлена 90 экспонатаў (67 цялушак і 23 бычкі); з іх ад саўхозаў было 20 галоў і ад сялянства не ўваходзіўшага ў кантрольны саюз 46 галоў. Экспэртнай камісіяй было раздана 20 матэрыяльных і 10 ганаровых прэмій.

Першую прэмію палучылі: 1) Валодзька А. Я., з вёскі Васілеўшчына, Самахвалавіцкага с-с. за 3 галавы маладняка—дыплём 1-й ступені, 2) Валодзька М. Б., вёска Васілеўшчына, Самахвалавіцкага с-с., за бычка—пружыновую барану.

3) Племхоз Русіновічы за групу маладняка дыплём 1-й ступені.

Другую прэмію барану Зіг—Заг: палучылі: 1) Гайдукевіч Ф. А. з вёскі Кацягі, Гатоўскага с-с. за бычка, 2) Лазарчык С. А. з вёскі Кацягі, Гатоўскага с-с., за цялушку, 3) Войцік Ігнат Васільевіч з вёскі Кайкава,Кайкаўскага с-с. за цялушку і бычка, 4) Племхоз Калініна за групу маладняка—дыплём II-й ступені.

На выстаўцы-вывадцы ў племхозе Калініна прысутнічала каля 800 чалавек зацікаўленых сялян.

Райзоотэхнік **У. Казлоў.**

---

# Групавыя сады Горацкага раёну Аршанскай акругі.

Восень 1927 г. у Горацкім раёне зьявілася вялікім уздымам садоўніцтва. Так, напрыклад, да 1927 г. у Горацкім раёне было садоў 96 дзес., а ўвосень 1927 г. было закладзена садоў на плошчы ў 30 дзес. У 96 дзес. увайшлі сады с.-г. акадэміі і б. маёнткаў, а 30 дзес. новых садоў былі толькі сялянскія. З боку насельніцтва вялікая цяга да гэтай справы. Вельмі дрэнна справа з пасадачным матэрыялам, які па дарагавізьне ня зусім спрыяе пашырэньню садоўніцтва. С.-г. аддзел садоўніцтва Акадэміі мае на продаж толькі маладыя яблыні бяз карон, двухгодкі цаною 80 кап. за штуку. Дробныя сялянскія выхавальнікі маюць пасадачны матэрыял дрэнны з боку асортымэнту. Вось такое зьявішча вельмі дрэнна адбіваюцца на справе садоўніцтва. Далей я раскажу, як у Горацкам р. рабілася закладка групавых садоў.

Думка аб групавых садох зьявіліся ў аграчасьці Аршанскага Акрза. Яна была падхвачана райаграномамі, якія з посьпехам і ажыцьцявілі яе ў межах сваіх раёнаў.

Апішу групавыя сады пасёлка «Чарная». Пасёлак «Чарная» мае 12 двароў і пабудован так, што з аднаго боку стаіць 7, а з другога 5 двароў. Перад кожным дваром сялібы. У пасёлку ёсьць беднякі і серадмякі, з шырокімі палосамі і вузкімі. Вось праз гэтыя палосы і ідуць рад за радам яблыні. У тых радох, якія ідуць па напрамку к пасёлку, адлегласьць паміж яблынкамі 10 мэтр., у тых-жа, што ідуць упоперак, адлегласьць па 10 мэтр. і па 12. Гэта тлумачыцца тым, што тут

прымаліся пад увагу межы, якія аддзяляюць адну палоску ад другой. Напрыклад, паміж сялібамі 4-й і 5-й ёсьць два рады саду адзін ад другога на 13 мэтр. Парадак расплянаваньня квадратовы. Асортымэнт у садзе наступны: антонаўка, штрэйфлінг, летні наліў белы, ружовае і цынамонавае-паласатае. У проц. ён такі: на 1000 штук—600 антонавак, 200 штрэйфлінг і 200 летніх.

Як бачым, сад таварны, а не любіцельскі.—

У Горацкім раёне такіх садоў 3 на плошчы 18 дзес. (1—6 дзес., 1—8 дзес. і 1—4 дзес.). Каля гэтых садоў будуць і далей групавацца другія сады з тым падрахункам, каб у далейшыя гады магчыма было пабудаваць у гэтых асяродках таварыствы. Таварыствы змогуць пабудаваць агульныя вінаробкі, сушылкі і іншую перапрацоўку яблык. Інакш кажучы, гэта будзе падстава ў індустрыялізацыі раёну. Апрача групавых у раёне закладзена 12 дзес. паасобных садоў ня менш $1/4$ дзес. у кожным.

Што-ж агульнага паміж групавымі і паасобнымі садамі? Агульнае ў іх, тое, што яны таварныя, па плошчы вялікія, па аднаму пляну закладзены і аднолькава ўвакруг абсажаны елкай. Пасаджаны сады па бяз'ямнаму спосабу.

Я павінен сказаць, што справа групавых садоў, як у Горацкім р., так і ў БССР, вялікая справа, аб якой трэба ўсім пагаварыць, каб хутчэй пашырыць пабудову групавага садоўніцтва.

Райаграном **П. Андрэйчыкаў.**

---

# Сел.-гасп. хроніка.

**Вывучэньне ільнаводзтва БССР.** Па заданьню Наркамзема Навукова-Дасьледчым Інстытутам імя У. І. Леніна закончана экспэдыцыя па вывучэньню ільнаводзтва Магілеўскай, Віцебскай і Полацкай акруг.

Экспэдыцыя ставіла сабе мэтаю вывучэньне тэхнікі і эканомікі ільнаводзтва ў шасьці найбольш характэрных раёнах па культуры лёну (раёны пашыранага і мала пашыранага ільнаводзтва). Матэрыялы будуць распрацованы на працягу зімы.

**Абсьледваньне садоў БССР.** Летам бягучага году Наркамземам было праведзена анкетнае абсьледваньне да 1200 садоў БССР. Мэтаю абсьледваньня было выявіць найбольш трывалы і ўраджайны асортымэнт яблык і ігруш у садох БССР для складаньня ў далейшым гандлёвых асортымэнтаў пры закладаньні новых садоў.

Анкетны матэрыял на працягу 3—4 м-цаў будзе распрацаваны Наркамземам для сваіх практычных мэтаў, а далей будзе пераданы Горацкай садовай станцыі для навуковай апрацоўкі.

**Саюз заводчыкаў чырвонага беларускага быдла.** (Самахвалаўскі раён), які з'арганізаваўся ў 1926 г., аб'яднаў каля сябе за год працы 70 сялян-гадоўцаў чырвонага беларускага быдла.

У Саюзе працуе зотэхнік і два кантроль-асыстэнты, якія і праводзяць завадзкую працу. Да Саюзу заводчыкаў далучыліся племхозы Калініна і Русінавічы.




## Каго пасылаць за хадакоў ад перасяленцаў*).

Будучы ў Сібіры і на Далёкім Усходзе, я ня раз праканаўся, як цяжка бывае некаторым нашым перасяленцам у Сібіру, па віне хадакоў, якія неабдумана выбіраюць для сваіх давярыцеляй вучасткі. У такім разе перасяленцам у Сібіру прыдзецца самім шукаць другіх вучасткаў, пераяжджаць з аднаго месца на другое, а можа пасьля і на трэцяе, ды з сям'ёю і з маёмасьцю. Калі перасяленец прыехаў увесну, ён пратраціць час, і нічога не засее, а тое, што прывязе с сабою праесьць і надзеецца на новы ўраджай нельга будзе. Пры такіх умовах перасяленцу застаецца альбо вярнуцца да дому, што некаторыя і робяць, альбо пайці ў кабалу к кулаку-старажылу ці шукаць дзе небудзь работу, а яе не заўсёды ўдаецца знайці.

Калі мы гаварылі, што вучастак можа быць хадакамі выбраны няўдала, дык гэта значыла, што альбо вучастак сыры, забалочаны ці вельмі зарос лесам і без папярэдняй падрыхтоўкі на ім нельга сеяць, альбо вельмі аддалёны ад заселеных месц (знаходзіцца ў далёкай тайзе) ці вучастак з неўраджайнаю глебаю; або вучастак ня мае сенакосу, ці без вады і г. д.

Такі неправільны выбар вучасткаў хадак можа зрабіць альбо з гэй прычыны, што ў хадака не хапае сродкаў доўга пражыць і ўсё дасканала разузнаць і разгледзець, бо прымушан бывае шукаць работы, каб пражыць і вярнуцца да дому, а не выбіраць вучасткі. А бывае і так, што хадак мае шмат давярыцеляй, трэба выбраць вялікую плошчу зямлі ў вадным месцы, якая была-б прыгодна для зямляробства. Такія плошчы адшукаць цяжка. Бывае так, што хадак дрэнна адносіцца да сваіх абавязкаў, забываючыся, што праз яго недагляд шмат прыдзецца перанесьці гора тым, хто яго паслаў. Часамі бывае і так, што хадак шукае добрых вучасткаў, і, не знайшоўшы іх, зварочваецца да Загадчыка вадварэньня перасяленцаў, каб той выдаў тарыфнае пасьведчаньне на льготны праезд да дому. Загадчык ня дае пасьведчаньня і раіць яшчэ пашукаць новых вучасткаў зямлі. Хадак, каб скарэй палучыць пасьведчаньне мімаволі залічае вучасткі для сваіх сялян абы якія, часамі нават іх зусім і ня бачачы. А бывае і так, што хадак проста ня можа справіцца з сваімі абавязкамі. Тым, хто пасылае, і хадаку трэба памятаць, што абавязкі хадакоў, вельмі цяжкія і адказныя.

---

*) Хадком называецца пасланец ад некалькіх сем'яў, які ўпаўнаважан выбраць і залічыць зямлю.

Так на Чалябінскім пункце, адкуль хадакі накіроўваюцца ў розныя акругі Сібіру, Вуральскай вобласьці і Далёкага Ўсходу, хадаку трэба ведаць, якую акругу таго ці іншага краю трэба выбраць для залічэньня вучасткаў. Затым перад залічэньнем вучастку ў тым ці іншым раёне хадаку трэба азнаёміцца з жыцьцём перасяленцаў у гэтым раёне, дакладна разузнаць пра клімат, глебу і ўраджай, а таксама з тым, як вядзецца гаспадарка, разузнаць, чым яна розьніцца ад беларускай гаспадаркі, якая цана на сельска-гаспадарчы інвэнтар, коняй, розныя сельска-гаспадарчыя машыны і на спажыўныя прадукты. Трэба ведаць, што перасяленцам прыдзецца весьці з сабою і чаго нельга, што і дзе лепш купіць, даведацца ці ёсьць падсобныя заработкі і якія, а таксама з якімі перашкодамі перасяленцу прыдзецца змагацца і як іх лягчэй перамагчы.

З усяго гэтага відаць, што ў хадакі трэба выбіраць людзей, на якіх можна было-б палажыцца, г. зн. людзей разьбітных, добрых гаспадароў і абавязкова добра пісьменных.

Хадака на дарогу трэба добра забясьпечыць сродкамі, каб ён там ня грошы на хлеб зарабляў, а рабіў тое, на што яго паслалі. Хадаком ня трэба даручаць шукаць зямлі на вельмі шмат перасяленцаў, бо чым менш сямей яго пасылае, тым лягчэй яму знайсьці патрэбную добрую зямлю.

Хадакоў трэба папярэдзіць, што яшчэ на месцы—дома трэба выбраць раён, у якім хадак павінен шукаць зямлі: у Сібірскім краі, ва Уральскай вобласьці, ці на Далёкім Усходзе, каб на хадацкім пасьведчаньні была гэтая паметка, куды ён едзе.

Чалябінскі пункт накіроўвае хадака ў той край, які паказаны на яго пасьведчаньні. Вясною былі выпадкі, што Чалябінскі пункт ня мог накіраваць хадака, куды ён хацеў, бо на пасьведчаньні быў паказан другі раён.

Хадаком, якія накіроўваюцца на Далёкі Усход, трэба браць праездны білет не да Чалябінска, а да Іркутска: тады білет таней будзе каштаваць. Хадакі ня раз жаліліся на Чалябінскім пункце, што ў іх у дарозе прападалі грошы, пасьведчаньні і праездныя білеты. Каб гэтага ня было, хадаком трэба ўважліва глядзець за сабою і асабліва на перасадачных станцыях пільнавацца, каб хто не ашукаў ці не абакраў дакумантаў і грошай.

*(Працяг будзе).*

**П. Бойка.**

---

# Новая падсуднасьць іскаў аб маемасьці сялянскага двара.

На старонках часопісі «Плуг» зьмешчаны быў шэраг артыкулаў, у якіх падкрэсьлівалася нязручнасьць, што іскі аб маемасьці сялянскага двара разглядаліся ў адных выпадках зямельнымі камісіямі, а ў другіх—народнымі судамі.

На грунце 79 артыкулу зямельнага кодэксу (выданьне 1925 г.) іскі аб зямлі, а таксама іскі прад'яўляемыя адначасна аб іншай маемасьці сялянскага двара, падсудны былі зямельным камісіям, іскі-ж аб аднэй маёмасьці без зямлі (аб будынках, жывёле, мертвым інвэнтару), вырашаліся народным судом.

Такая дваістая падсуднасьць іскаў аб маёмасьці сялянскіх гаспадарак пазбаўляла зямельныя органы магчымасьці вясьці барацьбу з надмерным іх падрабненьнем, бо члены двара, атрымаўшы ў зямельнай камісіі адмову ў іску аб падзеле ўсяго двара з прычыны яго незаможнасьці, звярочваліся ў народны суд. Па рашэньню апошняга разьмяркоўвалася маемасьць двара без зямлі, а потым члены двара альбо самахоць дзялілі зямлю і ўтваралі такім чынам малазямельныя гаспадаркі, або, атрымаўшы з гаспадаркі толькі прысуджаную частку агульнае маемасьці без зямлі, патрабавалі ад зямельных органаў надзяленьня зямлёю са складу зямельнага фонду.

Нядаўна дваістая падсуднасьць адных і тых-жа спрэчак аб маёмасьці сялянскай гаспадаркі скасавана пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР аб зьмене артыкулу 79 зямельнага кодэксу (Збор Законаў БССР за 1927 год № 24 арт. 109). Артыкул гэты мае наступную рэдакцыю:

«Іскі членаў двара аб падзеле агульнае маемасьці двара (будынкаў, інвэнтару, ураджаю і інш.), а таксама аб падзеле зямлі падсудны зямельным камісіям».

Пры параўнаньні арт. 79 у новай рэдакцыі з арт. 199 зям. код. відаць, што ў сучасны момант падсуднасьць іску аб маемасьці сялянскага двара вызначаецца ня толькі прадметам спрэчкі, але і ўдзельнікамі працэсу. Калі спрэчка ідзе аб зямлі, якая знаходзіцца ў карыстаньні двара, справа заўсёды падсудна раённай зямельнай камісіі. Яна ў гэтым разе разглядае сумесна прад'яўлены іск аб іншай маемасьці сялянскага двара, а таксама і аб стратах. Іскі аб аднэй маемасьці сялянскай гаспадаркі (будынках, інвэнтару, ураджаі, насеньні, дрэвах, прыбытках і інш.) без зямлі падсудны зямельным камісіям толькі ў тым разе, калі старанамі па справе будуць члены аднаго і таго-ж двара, напрыклад старыя бацькі просяць прысудзіць ім з агульнай гаспадаркі кватэру і ўтрыманьне, бо дзеці ня хочуць іх карміць і выганяюць з хаты. Калі-ж іск аб маемасьці без зямлі прад'яўляецца чужою для двара асобаю, альбо прад'яўляецца дваром праз гаспадара да незалежачай да двара асобы, справа ў гэтым толькі выпадку разглядаецца народным судом.

Пры такой падсуднасьці адзін і той жа іск ужо ня можа разглядацца і зямельнай камісіяй і народным судом, як было раней, бо ўсе без выключэньня спрэчкі аб маемасьці сялянскага двара паміж яго членамі павінны вырашацца цяпер зямельнымі камісіямі. Гэта дасьць ім магчымасьць дапушчаць судовыя падзелы працоўных зямляробскіх гаспадарак, якія маюць досыць зямлі і маёмасьці і не падлягаюць разам з тым абрэзцы, толькі ў выключных выпадках, як гэтага патрабуе пастанова Саветаў Народных Камісараў БССР (ад 10 красавіка 1925 г.) аб прыпыненьні падзелу сялянскіх гаспадарак.

**Аўг. Вішнеўскі.**

# „Дзень Ураджаю“ на Чэрвеншчыне.

С.-г. выстаўкам, якія арганізуюцца ў «Дзень Ураджаю», гаспадарчае насельніцтва вёскі надае звычайна большае значэньне цяпер, чым гэта наглядалася ў 1923-24 г. «Дзень Ураджаю» стаў запраўдным сьвятам вёскі. Гэта мае шмат прычын, але пераважна тлумачыцца ростам агрыкультурнай сьвядомасьці сялянства. У Чэрвенскім раёне ўжо праведзена 3 выстаўкі раённага характару і 13 дробна-раённых. «Дзень Ураджаю» Дзесятай гадавіны Кастрычніка на Чэрвеншчыне праведзен з асаблівай урачыстасьцю, пры ўдзеле шырокіх колаў сялянства.

На раённай выстаўцы было організавана 4 аддзелы: 1) р а л ь н і ц т в а, 2) с а д о ў н і ц т в а, г а р о д н і ц т в а і п ч а л я р с в а, 3) ж ы в ё л а г а д о ў л і, 4) х а т н я г а в ы р а б у і 4 куткі: 1) л я с н о й г а с п а д а р к і, 2) в э т э р ы н а р ы і, 3) А с о а в і а х і м у і 4) в а й с к о в ы. За тыдзень да адчыненьня раённай выстаўкі 23/X у раёне праведзена 8 дробна-раённых выставак, якія організаваліся пры саўхозах, аграпунктах і лепшых с.-с... На кожнай гэтай выстаўцы ставіўся на агульным сходзе даклад агранома.

Раённая с.-г. выстаўка была адчыніна 30-га кастрычніка. Лік экспонатаў па галінах с.-г. і выдатных узнагарод можна ўбачыць з наступнае табліцы:

| | Усяго экспон. | Ральніцтва | Сядоўніцтва | Гародніцтва | Лугаводзтва | Жывёлагад. | Пчалярства | Прамысловасьць | Выдана ўзнагарода: Дыплёмаў | Выдана ўзнагарода: Грошай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сяляне . . . . . | 373 | 84 | 20 | 44 | — | 54 | 40 | 131 | 8 | 173 |
| Саўхозы . . . . . | 93 | 51 | 9 | 5 | — | 16 | — | 12 | 4 | — |
| Каляктывы . . . . | 1 | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — |
| Коопэрац. аб. . . . | 26 | 8 | 3 | 3 | 10 | 1 | 1 | — | — | 15 |
| Аграпункт . . . . . | 31 | 17 | 6 | — | — | — | 8 | — | 1 | — |
| Інш. ўстановы (школы) | 21 | 19 | — | 2 | — | — | — | — | 2 | — |
| Р а з а м . . . | 545 | 179 | 38 | 54 | 10 | 72 | 49 | 143 | 15 | 188 |

Выстаўка была адчынена тры дні з 9 гадзін ранку да 6 гадз. вечара. Першыя два дні на выстаўку даведвалася сялянства, а 3-ці дзень вучнёўскія экскурсіі беларускай і яўрэйскай сямігодак.

Прэміі выдаваліся ў разьмеры ад 3 да 10 руб., прэміравальны фонд складаўся з 255 руб.

За тры дні на выстаўку даведалася 3000 сялян і больш 1000 вучняў.

Пачэснымі экспонатамі на выстаўцы былі кораныплоды, лён, і насеньня сартовага збожжа.

Шкода, што выстаўку немагчыма было заставіць на далей з прычыны неабходнасьці аслабаніць памяшканьне.

**Сьц. Савіч.**

# Зьмест № 1—12 часопісі „Плуг“.

## Зямельная і с.-г. палітыка.



## Дзяржаўная дапамога вёсцы.



## Палявая гаспадарка.

№ 7—С. Тупяневіч. Калі сеяць жыта, № 8—Янка Лапа. Заводзьце азімую пшаніцу, № 8—А. Фурса. Азімая выка—найлепшы прыяцель сельскага гаспадара, № 8—Акр. агр. Уліцін. Як заворваць лубін, № 8—Янка Лапа. Аб памылках у карыстаньні мінэральнымі парашкамі, № 8—Сел. К. Запольскі. Заворвайце рана аржоньне, № 8—Сел.-дасьл. Я. Савіцкі. Як вырабляць дзярван, № 8—Пётра з Пустога Поля. Як палучыць сваё насеньне буракоў, № 8—Лібах. Першы крок культуры балот, № 9—І. Крупень. Скарыстаньне торфу, як угнаеньня, № 9—А. Берзін. Аб асеньнім вырабу поля, № 9—С. Тупяневіч. Як падняць высокі ўраджай аўса, № 9—Сел. К. Запольскі. Вопыт з лёнам-даўгунцом № 9—Сел. Сялюкін. Уплыў попелу і мінэральных угнаеньняў на сенажаць, № 9—П. А. Самцэвіч. Сельская гаспадарка Беларусь за 10 год, № 10—Цэтлін. Сельская гаспадарка Гомельшчыны, № 10—Масюкоў. Чаго дасягнуў наш раён за час рэвалюцыі, № 10—Сел. А. Карнейчык. Нашы дасягненьні ў навукова дасьледчай працы, № 10—М. Савіцкі. Карысьць ад воранкі поля ўвесь, № 12—Агр. Драздоў. Сажа нз палёх Горацкага раёну, № 12 — М. Дарожкін. Як узмацніў я сваю гаспадарку, № 12—Сел В. Місун.

## Праца на балоце.

Павярхоўнае палепшаньне балот, № 1—А. Шохар. Наша праца з балотам, № 2—Сел. М. Тарасенка. Як вёска Сьвятое рыхтуецца да севу балот, № 3—М. Карунчык. Аб палепшаньні сенажані, № 4—А. Савельлеў. Што сеяць на балоце, № 5.—М. Баранава. Капуста на балоце, № 5—А. Шохар. Як на балоце я вырасьціў пудовую капусту, № 5—М. Карунчык. Як зімою я накапаў 3000 пуд. торфу, № 5—Сел. К. Запсльскі. Больш увагі торфу, № 7—А. Забалотны. Асушка і выраб балота, № 7—А. Берзін. Сяляне, ідзеце па прыкладу Кастрычнікавага мэліорацыйнага т-ва, № 7—М. Карунчык Аб залужэньні балот, № 8—А. Шохар. Торф трэба капаць арганізована, № 8—Сел. А. Івановіч. Аб торфе, № 9—Я. Мароз. Менская балотная станцыя, № 10—М. Д. Якую карысьць дала мне тарфяная подсьцілка. № 11—К. Запольскі. Аб уплыве павярхоўнага ўгнаеньня на ўраджайнасьць штучнай сенажаці, № 12—А. Шохар. Гаспадарка селяніна Генрыха Пастэрнаў ў Нямеччыне, № 12—М. Лейвікаў.

## Сялянскі досьлед.

Вынікі 2-х гадовай культуры сэрадэлі ў Чэрык. раён. Калін. акр., № 1—Агр. Карача. Кармовая бручка, № 1—Сел. Янка Судак. Вынікі мінэральнага ўгнаеньня, № 1—Сел. С. Сялюкін. Праца сялян-дасьледчыкаў у 1926 г., № 2—Вынікі працы вопытнага поля пры Беліцкай с.-г. школе, № 2—В. Серафімовіч. Досьлед з турнэпсам, № 2—Сел. С. Сялюкін. Аб выніках пасеву турнэпсу і кармовых буракоў за 3 гады, № 2—Сел. Я. Судак. Высокалітоўская пшаніца—зімка—лепшы сорт у нашых умовах, № 2—Сел. М. Тарасенка. Дасьледчая праца селяніна, № 2—І. Сямёнава. З штодзённіка селяніна-дасьледчыка Г. Шасьціткі, № 2.—Патрэбен с.-г. досьлед, № 2—Сел. М. Зьвераў. Пашырайце досьлед, № 3—С. Тупяневіч. Як ставіць вопыты па скарыстаньню торфа на ўгнаеньне, № 3—П. Трус. Сейце канюшыну сваім насеньнем, № 3—Сел. М. Тарасенка. Як выручыла мяне сэрадэля, № 3—Сел. К. Запольскі. Якую карысьць прыносіць лубін, № 3— Сел. М. Карунчык. Хто павінен займацца сялянскім досьледам. № 4—Сел. Я. Судак. Стварэньне Інстытуту сялян-дасьелдчыкаў, № 4.—За працу, № 4—Сел.-дасьл. М. Тарасенка. Пачынаю ставіць досьледы гаспадарцы, № 4—Сел. А. Сьцяжко. З палявых досьледаў, № 5—С. Такмачоў. Чым займацца селяніну-дасьледчыку, № 5.—С. Т. Пасеў гароху разам з аўсом, № 5—Сел. В. Місун. Вопыт пасеву лубіну пад жыта, № 6—П. Самцэвіч. Лубінавая мука, як угнаеньне, № 6 Сел. Шасьцітка. № Уплыў калійнай солі на кораньплоды, № 6— В. Аньцюх. Дагляд летам бульбы, № 6—З. Бульбянік. Як ставіць досьледы з мінэральнымі ўгнаеньнямі, № 6—Сел. С. Сялюкін. Мае досьледы ў 1927 годзе, № 7—Сел. А. Карнейчык. Досьлед з бульбай у в. Клянік Смалявіцкага раёну, № 7—Сел. А. Ганчарык. Карысьць ад тамасаўкі, № 7.—Агр. В. Аньцюх. Вопыт вапнаваньня канюшыны, № 8—.П А. Самцэвіч. Мой вопыт з турнэпсам, № 8—Сел. Р. Воўкаў. Як вырабляць насенны лубін, № 8—Пётра з Пустога Поля. Вопыт прымяненьня торфу на ўгнаеньне, № 8—П. А. Самцэвіч. 10-я гадавіна Кастрычніка і Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў, № 10—Г. Чуйко. Досьлед з кораньплодамі па рознаму ўгнаеньню № 11—Я. Судак. Досьлед на балоце, № 11—Сел.-дасьл. Е. Кавалёў. Угнойвай поле пад ячмень з восені, № 11—Сел. М. Астрэйка. Вопыт з ячменем, № 11—Сел. Г. Воўк. Досьлед з капустаю, № 12—Сел-дасьл. А. Карнейчык. Ураджай пшаніцы 120 пуд. з дзесяціны, № 12. Янка Судак.

## Лясная гаспадарка.

На наш век хопіць, № 1—Гаўрыловіч. Нашы лясныя пароды, № 1—М. Шалупенка. Лясная гаспадарка Беларусі ў даваенны час, № 2—А. Мільлянаў. Ліставыя пароды, № 2—М. Шалупенка. Аб лесе мясцовага значэньня, № 2—Я. Судак. Трэба гатавацца да

пасеву леса на лесасеках лясоў мясцовага значэньня, — 3—Т. Гаўрыловіч. Як аднаўляць высячаны лес, № 3—К. Іваноў. Як замацаваць лятучыя пяскі, № 3—М. Ш. Да „Дню Лесу", № 4—Міхасенка. Значэньне лесу ў народнай гаспадарцы, № 4—Ткачоў. Вынікі „Дню Лесу" ў 1926 г., № 4—К. Іваноў. Дрэвы—упрыгожаньне сялібы селяніна, № 4—К. Ж. Роля лесу ў абароне краіны ў часе рэвалюцыі, № 4—А. М. Як весьці правільную лясную гаспадарку ў лясох мясцовага значэньня, № 4—К. Жук. Ворагі лесу і барацьба з імі, № 4—Таксатар Лімантаў. Пра „Дзень Лесу" № 5—В. Ткачоў. Веснавая праца ў лесе, № 5—Праф. С. П. Мельнік. Паляпшайце і скарыстоўвайце плошчы, пераданыя ў зямельны фонд, № 5—Т. Гаўрыловіч. Нашы лясныя пароды, № 5—М. Шалупенка. Як гнаць бярозавы дзёгаць, № 5—М. Шалупенка. Якімі павінны быць адносіны сялянства да лесу вясною і летам, № 6—Т. Гаўрыловіч. Ахоўвайце лес ад пажараў, № 6—Г. Шасьціцка. Лясная гаспадарка Беларусі за час вайны і рэвалюцыі, № 6—М. Мільлянаў. Замацоўвайце сыпучыя пяскі, № 7—Т. Гаўрыловіч. Способы вылічаць і разьмяркоўваць лесасекі ў лясох мясцовага значэньня, № 7—М. Шалупенка. Аб чым трэба пісаць у „Плуг" у галіне лясной гаспадаркі, № 7—Лесавод. Як палепшыць справу з апалам, № 8—Т. Гаўрыловіч. Пра абрэзку сучча на дрэвах у лесе, № 8—Праф. С. Мельнік. Аб разьмеркаваньні лесу сярод насельніцтва, № 9—Т. Гаўрыловіч. Падрахункі і пэрспэктывы разьвіцьця лясной гаспадаркі БССР, 10—В. Ткачоў. Аб прадажы лесу насельніцтву з лясоў—дзяржаўнага значэньня, № 11—Я. Седашоў. У якую пару трэба сеч лес, № 11—М. Шалупенка. Зьбірайце лясное насеньне, № 12—Т. Гаўрыловіч.

## Жывёлагадоўля.

Якое значэньне мае цёплы хлеў, № 1—Агр. С Багдашыч. Ці можна даваць жывёле прамёрзлы корм, № 1—Вэт. Жарын. Як з цяляці выгадаваць карысную жывёлу, № 2—Агр. Ватальскі. Як даглядаць жарабят зімою, № 2—Сел. А. Сьцяжко. Чаму трэба замяніць адзін корм другім, № 2—Сел. К. Запольскі. Гаспадарка, якая вырашыла кармовае пытаньне, можа лічыцца культурнай, № 2—С. Тупяневіч. Кармленьне жывёлы мякінай, № 2—Сел. А. Карнейчык. Лёгкі спосаб грэць ваду для жывёлы мякінай, № 2—Сел. М. Сенька. Свой ці замежны бык—племянік, № 3—П. Ластоўскі. Паляпшайце коняй, № 3—С. Д. Ці сходна беларусу гадаваць і трымаць у сваёй гаспадарцы каня, № 3—С. Дыаканенка. Палепшаньне сельскай гаспадаркі і сялянская моладзь, № 3—І. Атабекянц. Добры ўплыў на жывёлу корму, які выклікае бражэньне, № 5—І. Лібах: Зьвернем увагу на захаваньне быкоў, № 5—Агр. Арлоўскі. Як паляпшаю я сьвінаводзтва, № 5—Сел. М. Зьвераў. Як даведаўся я пра карысьць сэпаратара, № 5—Сел. П. Жаўнерчык. Як мы зьнішчылі бяскорміцу, № 6—Сел В. Місун. Арганізуйце кармовую плошчу, вырашайце кармовае пытаньне № 5—С. Т. Малочныя адзнакі ў цялят, № 6—Агр. Лібах. Як аберагчы хатнюю жывёлу ад хвароб, № 6—М. Жарын. Што трэба радзіць, калі ў гаспадарцы зьявіўся яшчур (язычніца) № 6— М. Жарын. Як пазнаць пладавітую сьвіньню, № 7—Л. Як зрабіць добрае сьметанковае масла, № 7—Сел. М. Зьвераў. Што дало паказальнае кармленьне кароў сялянам в. Бярэзіна, № 7—Агр. С. Багдашыч. Ў хлеве павінна быць суха і чыста, № 7—Сел. В. З. Абманы гандляроў коньмі, № 7—С. Сянчук. Чым хварэюць куры і як іх лячыць, № 7—Вэт. М. Жарын. Выкарм лягчаных сьвінак і кабаноў, № 8—М. Юнгер. Скотныя магільнікі і іх значэньне ў барацьбе з заразьлівымі хваробамі жывёлы, № 8—Вэт. М. Жарын. Конкурс малочнасьці ў Менскай акрузе, № 9—Зоотэхн. М. Канавальчык. Сьвіньня дае вялікую карысьць, № 9—Агр. Зьмітрыеў. Даходнасьць птушніцтва ў сялянскай гаспадарцы, № 9—І. Восіпаў. Паказальнае кармленьне кароў ў вёсцы Забалацьце Вузьдзенскага раёну, № 9—Агр. П. Ляневіч. Беражэце сваю скаціну ад сібірскае язвы, № 9—Вэт. М. Жарын. Малочныя арцелі ў Лупальскім раёне, № 9—В. Усачоў. Аб дасягненьнях у жывёлагадоўлі БССР, № 10—П. Ластоўскі. Савецкая вэтэрынарыя, № 10—С. Серпаў. Праца над чырвоным беларускім быдлам у Менскай акрузе, № 11—М. Канавальчык. Зімняе ўтрыманьне кароў, № 11—М. К. Завадзіце данкія кармушкі, № 11—Сел. А. Фурса. Кармушкі эканомяць корм, № 11—Сел. М. Сенька. Што трэба ведаць пры пастаноўцы досьледаў па жывёлагадоўлі, № 12—Праф. Пеліхаў. Досьледы з адкормам сьвіней, № 12—С. Журык. Аб пастаноўцы вопытаў па гадоўлі цялят, № 12—Праф. Н. Найдзёнаў. Досьледы па малочнай гаспадарцы, № 12—А. Рыбакоў. Лісьце, як подсьціл, № 12—Сел. С. Астрэйка. Як уцяпліў я свой хлеў, № 12—Сел. Крыпенін.

## Пчалярства.

Самасадачны вулей, А. Сыцько, № 1—М. Бурштэйн. Як палепшыць вулей-калоду, № 1—Сел. Магучы. Догляд пчол зімою, № 2—С. Шчарбовіч. Як палепшыць вулей калоду, № 2—Сел. А. Магучы. Догляд пчол у канцы зімы, № 3—Сел. А. Магучы. Як карміў я пчол зімою, № 3—Сел. А. Магучы. Хвароба пчол-гнілец, № 6—Сел. А. Сыцько. Перагон пчол, № 6—А. Магучы. Догляд за пчоламі ў канцы лета, № 8—А. Магучы.

Пачнем культурна займацца пчалярствам, № 9—У Ліванскі. Галоўныя асеньнія работы на пасецы, № 9—Сел. пчал. А. Магучы. Пчалярства БССР у 1927 г., № 11—І. Струкоўскі. Зімоўка пчол. № 11—У. Ліванскі.

## Сад і гарод.

Калі пладаводзтва стане прыбытковым, № 1—М. Бурштэйн. Зьнішчайце зімовыя гнёзды, № 1—Б. Бранцаў. Як пры перапасадцы зьберагчы дрэва ад ажогаў, № 2—Праф. М. Бернацкі. Веснавая праца ў садзе, № 3—З. Булаўка. Парады пры гадоўлі дзічак. № 3—Р. Гуржы. Пладовы асортымэнт Мазыршчыны, № 3—А. Сыцько. Фасоля Я. Мароза. № 4—Я. Мароз. Як вывесьці карону ў яблыні, № 4—М. Бурштэйн. Парады да культуры дзічкоў, № 4 - Р. Гуржы. Як Сеяць таматы, № 4—В. Красачкін. Гуркі, № 4—Сел.-дасьл. Т. Апет. Якая карысьць ад своечасовага апрыскваньня атрутамі ў садох, № 5—Б. Бранцаў. Гадоўля цыбулі, № 5—В. Красачкі. Антоноўка, № 6—Праф. В. Пашкевіч. Карысная садавіна—чырвоная чарэсьня, № 6 Г. Б. Летнія работы ў гародзе. № 6—В. Красачкін. Пладовы асортымэнт Мазыршчыны, № 7 Сел. А. Сыцько. Даходнасьць ягад, № 7—А. Куранкоў. Ці трэба ўжываць ямную пасадку прышчэп, № 8—М. Бурштэйн. Дамашні выраб віна, з яблык, № 8—Р. Гуржы. Як я хаваў яблыкі зімою, № 8—Сел. К. Бяяровіч. Дасьледчы матэрыял адносна тэхнікі культуры дзічак, № 9—Проф. М. Бурштэйн. Як рабіць з яблык пасцілу, мармаляд і павідла, № 9—агр. К. Цэхановіч Пасадка саду на пясчанай глебе, № 9 М. Бурштэйн. Дзесяцігодзьдзе Кастрычніка—сьвята садоўніцтва, № 10—Праф. М. Бурштэйн. Садоўніцтва Беларусі і яго першачарговыя практычныя задачы, № 10—К. Хабэнка. Вінаробства на Віцебшчыне, № 10—М. Лубоўскі. Значэньне пчол для запладненьня пладовых дрэў, № 11—М. Бурштэйн.

## С.—г. коопэрацыя.

Бардзілаўскае мэліорацыйнае т-ва, № 8—Сел. А. Івановіч. Лясная коопэрацыя і сялянства, № 9—Б. Ліпкін. Дасягненьні і недахопы ў с-г. коопэрацыі, № 10—Н. Аксючыць. Пасялковае т-ва імя Ціміразева, № 10—Агр. Мураўскі. Бяркоўская малочная арцель, № 10—Агр. Шульман. Роля с-г. коопэрацыі ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі, №11—А. Рыбакоў. Становішча с-г. коопэрацыі ў Магілеўскай акрузе, № 11 —Крупіцка-Стаўбуноўскі кантрольны саюз № 11—Райзоотэхн. У. Казлоў. Калектыўная распрацоўка драўніны ў лесе, № 12—Я. Седашоў. Пашырайце скарыстаньне макухі, № 12—П. Л. Выстаўкі—вывадкі маладняка чырвона-беларускага быдла. № 12—Райзоотэхнік У. Казлоў. Групавыя сады Горацкага раёну, Аршанскай акругі, № 12—Райагр. М. Андрэйчыкаў.

## Краязнаўства.

Больш увагі вывучэньню хатніх рамёстваў, № 1—Р. Рак. Гаспадарка Пётры Бернгардта, № 1—Як у вёсцы Клешава пачалі сеяць канюшыну, № 2—С. Я. Корзун. Як вядзе гаспадарку Казачонак Нічыпар, № 2—Агр. С. Багдашыч. Што дае ўпартая праца, № 5—Лабус. Гаспадарка Рыгора Андросіка, № 7—І. Вярковіч. Апісаньне гаспадаркі грам. Прэйса, № 11—Паляўніцтва і ахова прыроды ў БССР, № 12—Праф. А. Пялюшын.

## Агульны аддзел.

Два гады працы, № 1. Ліст да рэдакцыі, № 2—М. Шалупенка. Ліст селяніна А. Сыцько аб пасеўнай кампаніі. № 3—Як пабудаваць варыстую печ для апалу торфам, № 6—Сухавараў. Памёр наш селькор, № 6. Ліст у рэдакцыю, № 6. Вытворчыя нарады па сельскай гаспадарцы, № 6—Р. Бяздольны. Што паказваць селяніну ў сьвята „Дзень Ураджаю“, № 8—С. Тупяневіч. Чаму навучыла нас часопіс „Плуг“, № 8—Сел. М. Сенька. Зьнішчайце апаўшае лісьце ў садзе, № 9—М. Пілько. Сельска гаспадарчая кніга ў дапамогу вёсцы, № 10—С. Тупяневіч. Як праводзяцца дасягненьні Турскай дасьледчай станцыі ў сялянскай гаспадарцы, № 11—А. Дзіковіч. Сялянская с-г. школа ў сябе дома, № 12.

Выданьне Наркамзему. Адк. рэд. Зьм. Прышчэпаў.

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Саф. Хоміч, Сьц. Тупяневіч.*

7 **ЦАНА 20 КАП.**

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1928 ГОД

## СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЯ ЧАСОПІСЬ „ПЛУГ“

ЧАСОПІСЬ ставіць сваёй мэтай у навукова-папулярнай форме знаёміць наша перадавое сялянства з працамі дасьледчых станцый, працаю вучастковых аграномаў і зямельных працаўнікоў, дасягненьнямі сялян-дасьледчыкаў і гаспадароў практыкаў, навінамі агранамічнай навукі і г. д.

ЧАСОПІСЬ зьвязана з працаю Інстытута Сялян-Дасьледчыкаў і з практычнаю працай сялян.

У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ ПРАФЭСАРЫ, НАСТАЎНІКІ І НАВУКОВЫЯ СУПРАЦОЎНІКІ БЕЛАРУСКАЙ С.-Г. АКАДЭМІІ.

**(Салаўёў П. Ф., Вэйс Ю. А., Мельнік С. П., Найдзёнаў М., Лунгергаўзен Ф., Скандракоў С. В., Бурштэйн М., Серада І. М., Гарэцкі Г. І., Кісьлякоў І. А., Рагавы П. П., Журык С., Берзін А., Савельлеў А., Рэго Г., Ганчарык М. і інш.) Дасьледчыя станцыі, зямельныя працаўнікі, эканамістыя і аграномы БССР (Зьм. Прышчэпаў, Рэмізаў, В. Ткачоў, Цыганкоў І., Смоліч А., Міхайлаў А., Атабекянц І., Трахімаў Е., Тупяневіч С.), вучастковыя аграномы, сяляне-дасьледчыкі, с.-г. школы і г. д.**

ГАДАВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ „ПЛУГА“ за 1928 г. АТРЫМАЮЦЬ У ПРЭМІЮ АДНУ С.-Г. БІБЛІОТЭЧКУ ПА ВЫБАРУ:

### 1-ая ПРЭМІЯ—Б-КА З 12 КНІГ.

1. **Брук Б.**—От 3-х полья к 6-типолью с вико-овсяным паром.
2. **Люст А.**—Правильное полевое травосеяние и плодосмен в крестьянском хозяйстве.
3. **Кочетков** В.—Суперфосфат и его применение в сельском хозяйстве.
4. **Вихляев И.**—Торфяная подстилка.
5. **Хабенко К.**—Краткия указания о том, как производить посадку плодовых деревьев.
6. **Отоцкий И.**—Уборка плодов с деревьев, сортировка, упаковка и хранение.
7. **Фридолин С.**—Заповеди животновода.
8. **Уранов А.**—Берегите свиней от заразных болезней.
9. **Постников**—Бешенство и борьба с ним.
10. **Григорьев Г.**—Кустарн. промыслы.
11. **Пухликов В.** — Нужна-ли мелиорация.
12. **Седашев Я.** — Лесное хозяйство в БССР.

### 2-ая ПРЭМІЯ—НАСТОЛЬНЫ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫ КАЛЯНДАР на 1928 год.

### 3-я ПРЭМІЯ—Б-КА З 6 КНІГ.

1. **Тупяневіч С.**—Сялянскі с.-г. досьлед на Беларусі.
2. **Анціпенка Т.**—Прыборка, захаваньне і перавозка бульбы.
3. **Бугаёў З.**—Буракі, бручка і рэпа ў полі.
4. **Атабекянц І.**—Шляхі бэконізацыі сьвінаводзтва БССР.
5. Кармовыя расьліны — „сэрадэля“ і „пялюшка“.
6. **Жыван**—Косьці, як угнаеньне.

### 4-я ПРЭМІЯ—АГРАНАМІЧНАЯ Б-КА.

1. **Прышчэпаў Зьм.** – Сельская гаспадарка Прусіі і Даніі ў параўнаньні з Беларускай.
2. Проф. **В. Касаткин** — О почвах Белоруссии.
3. Проф. **И. Калугин**—Красный белорусский скот.
4. **Бабицкий Б.**—1) Баланс удобрений в крестьянском хозяйстве.
   2) Животноводство, кормовые рационы и баланс грубых кормов.
   3) О программах работ опытных станций.

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

**На год—2 р. 20 к. На 6 м.—1 р. 10 к. На 3 м.—60 к. Паасобны нумар—20 к.**

По выбару гадавога падпішчыка прэмія будзе рассылацца дарэмна, калі падпіска зроблена толькі праз Рэдакцыю „ПЛУГА“.

**Прэміі будуць рассылацца з № 1 „ПЛУГА“ 1928 г.**

Гадавыя камплекты „ПЛУГА“ за 1925 і 1926 г. можна выпісаць за 50% падпісной платы (1 р. 10 к.).

*Заказы на старыя № № „Плуга“ і іншыя выданьні НКЗ накіроўваць: Менск, Савецкая 71, Выдавецтва НКЗ.*

Зак. № 885. У ліку 2000. Галоўлітбел № 286.
1-я друкарня Бел. Дзярж. Выдавецтва.